БАЦЬКАЎШЧЫНА

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")

Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H. München 8, Rosenheimerstr. 46 a.

Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA" München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 51-52 (130-131) Каляды 25 сьнежаня 1952 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 6

# У Дзень Нараджэньня Сына Божага

Крыху праўдзівых словаў, каб прыпомніць бэтлеемскае здарэньне, якое палажыла канец дваццаці стагодзьдзям гісторыі Выбранага Народу і, каб зрэзюмаваць навучаньне хрысьціянскае веры, якую прыпамінае нам гэтае сьвята.

### ПАВАРОТ СУСЬВЕТНАЕ ГІСТОРЫІ

Лацінская царква, якая ў гэтых абставінах любіць гістарычныя падсумаваньні, кажны год падрыхтоўваецца да сьвята Калядаў чатырмя нядзелямі, якія яна заве нядзелямі Адвэнту.

Адвэнт творыць адну цэласьць літургічных службаў, у якіх злучаюцца найпрыгажэйшыя мэсыянічныя тэксты Старога Запавету: гэныя, якімі, ад часоў Аўраама, каралі, пракрокі ды найбольшыя пісьменьнікі Ізраэлю падрыхтоўвалі свой народ да прыходу Збаўцы, нашчадка патрыярха Юды, «адростка Есея», сына Багародзіцы з Давідавага дому. Ён народзіцца ў Бэтлееме і вызваліць свой народ.

Кажны год лацінская Царква прыпамінае сваім дзецям ажыцьцяўленьне штораз больш дакладных абяцяньняў ды штораз больш узбуджаючае надзеі, як быццам-бы маглі адрадзіцца далёкія стагодзьдзі. Яна гэта робіць, каб гэныя, якія наведваюць багаслужбы, маглі ўглыбіцца ў сьвяткаваньне калядных містэрыяў з тым самым настроем і набожнасьцяй, зь якім прарок-старац Сымон пераняў Дзіцё-Езуса ў свае рукі, калі Маці апошняга й сьвяты Язэп прыйшлі прадставіць Яго ў ерузалімскай сьвятыні на саракавы дзень пасьля Нараджэньня.

Усходняя Царква зьвяртае ўвагу асабліва на духовае жыцьцё. Яна падрыхтоўвае сваіх дзяцей постам, дзеля таго, што яна пераканана, што нішто так не падгатаўляе людзей настроіцца ў унісон з духовымі запраўднасьцямі, як мартыфікацыя цялесных путаў. Тым ня менш, яна не забываецца і гістарычных здарэньняў. Яна прысьвячае апошнія дзьве нядзелі перад Калядамі для адзначэньня ўспаміну аб усіх тых, якія падрыхтавалі прыйсьцё Збаўцы: успаміну аб патрыярхах ды продках, што перадалі Яму сваю кроў, і ўспаміну аб Ягоных духовых прадвесьніках, прароках, якія падрыхтавалі сэрцы дзяцей Ізраэлю да прыйма іхнага Мэсыі.

Дваццаць стагодзьдзяў гісторыі Выбранага Народу даходзяць тут да свайго канца.

Да часоў Бэтлеему рэлігійная гісторыя чалавецтва ўздымаецца на ўзвышша. Пачынаючы адгэнуль, чалавецтва знайходзіцца на высокай духовай пляцоўцы, у новай эры, эры хрысьціянскай, і ўся ягоная гісторыя стаецца разрэзанай на дзьве часткі: ПЕРАД і ПАСЬЛЯ.

Толькі пазьней, далёка пасьля жыцьця й сьмерці Хрыста, хрысьціяне самі зразумелі гэта і ўвялі падвойную храналёгію: «перад нараджэньнем Хрыста» і «пасьля нараджэньня Хрыста», якая аддаўна прынялася, як адзіная ўнівэрсальная храналёгія, навет паміж найзялікшымі антыхрысьціянамі. Іншыя храналёгіі, ранейшыя ці пазьнейшыя і менш-больш трывалыя, увяліся пасьлядоўна ў розных краінах зямлі ды паміж некаторымі народамі, як напрыклад: гадалічэньне ад заснаваньня Рыму ў Рымлянаў, ад алімпіядаў — у Грэкаў, ад гэгіры (уцёкі Магамэта з Мэккі ў Мэдыну) — у мусульманаў, і іншыя. Але ўсе яны пачынаюцца ex abrupto, пачынаючы ад нейкага мясцовага здарэньня і цягнуцца так доўга, як яны ёсьць. Толькі храналёгія, якая пачынаецца ад нараджэньня Хрыста, даводзіць, што падчас доўгага раду стагодзьдзяў, сьвет жыў у чаканьні на свайго Збаўцу і, што пачынаючы ад гэтага нараджэньня, ён будзе жыць заўсёды Ягонымі дабрачыннасьцямі.

Сьвята Калядаў прыпамінае нам кажны год гэны паваротны мамэнт гісторыі, і можна-б было сказаць бясконцую лісту самастойных асаблівасьцяў характэрных гэтым дзьвём эрам, што дапаўняюцца ўзаемна: з аднаго боку — чалавецтва, пагружанае ў політэізьме (шматбожжы) ды матэрыялізьме: багі, якіх няма; жыцьцё бяз душы, без пасьмяротнага жыцьця, а, значыць, без надзеі; з другога боку — монотэізм (адзінабожжа) ды жыцьцё духу, абвешчанае навет бедным і людзям бязь нічога: адзін Бог, Айцец усіх бяз розьніцы і вечнае жыцьцё зь Ім; з аднаго боку — грамадзкае і плітычнае жыцьцё, у якім пераважае прыціск слабога моцным, права мацнейшага і рабства; з другога боку — сталы высілак, каб валадарыла права, супакой, пашана чалавечае асобы і роўнасьць усіх; з аднаго боку — выключная пагоня за матарыяльным ці прынамся часовым валоданьнем; з другога боку — культ бязінтэрэсоўнасьці, аддаласьць, ды духовага ідэалу.

Выразная супрацьлежнасьць дзьвюх эраў, двух сьветаў, агульныя завесы якіх знаходзяцца ў бэтлеемскіх ясьлях, у прынцыпах ды ў дактрынах, што ўцелавіў гэты Нованароджаны.

### КРЫНІЦА ДАКТРЫНАЎ

Хрысьціяне патрабавалі колькі стагодзьдзяў адлегласьці, каб дагледзець і зразумець, што Каляды абазначаюць усё гэта, навет яшчэ больш.

Вялікія ўсяленскія Саборы значаць першыя стагодзьдзі дэкрэтаў, абазначэньняў і выясьненьняў.

У 325 годзе, Ніцэйскі Ўсяленскі Сабор падкрэсьліў, што Той, Які нарадзіўся ў Бэтлееме, зьяўляецца запраўдным Сынам Божым, роўным свайму Айцу: «Сына Божага, адзінароднага, ад Айца народжанага перад усімі вякамі: Сьвятло ад Сьвятла, Бога праўдзівага ад Бога праўдзівага, народжанага нястворанага, адзінасутнага з Айцом, празь якога ўсё сталася».

У 431 годзе Эфэскі Ўсяленскі Сабор дадаў, што Хрыстос, Сын Божы, зьяўляецца запраўдным Сынам Марыі па целе і, што яна мае права на тытул «Багародзіцы».

У 451 годзе, Хальсэдонскі Сабор удакладнівае яшчэ, што Сын Божы, уцелаўлёнае Слова, боская Асоба, не зьяўляецца ад гэтага ў меншай меры Богам ці чалавекам, Асобай у двух натурах.

Сяньня ўсе гэтыя праўды зьяўляюцца шмат выкладванымі, камэнтаванымі, сьпяванымі ў літургічных хрысьціянскіх тэкстах, якія выражаюць Божыя пагляды на зямныя здарэньні: усё тое. што Бог у іх улажыў ды ўсё, што Ён зь іх хоча мець. «Раство Тваё Хрысьце Божа Наш, радасьць абвясьці ўсяму сьвету»!

Ад часу ўвядзеньня, у сярэдзіне чацьвертага стагодзьдзя, Каляднае Сьвята сталася адным з дактрынальных полюсаў хрысьціянаскае Літургіі, ня губляючы гэтым старажытнае паэзіі, якою карысталіся прарокі Ізраэлю ў чаканьні на свайго Збаўцу.

### МАЯК НАДЗЕІ

Хрысьціянскі фальклёр зрабіў з Калядаў сьвята радасьці й надзеі.

Радасьць і надзея ня так, як на Вялікдзень, дзе вера пераконвае дух у канчатковай перамозе дабра над злом, пераможаным сьмерцяй ды ўваскрашэньнем Хрыста, але радасьць і надзея, як тыя, што праменяцца над кажнай калыскай: радасьць жыцьця і надзея на разьвіцьцё і будучыню новых сілаў, якія толькі-што праявіліся.

З гэтае прычыны Каляды зьяўляюцца днём радасьці й надзеі для бедных, што пацяшаюцца вакол Тога, якому знайшлі толькі зямлянку, каб даць прытулак у першыя гадзіны Ягонае прысутнасьці сярод людзей. Дзень пацяшэньня й надзеі для ўсіх тых, што знаходзяцца ў выгнаньні, як Сьвятая Сям'я, далёка ад дому ў Назарэце, а пасьля на эгіпскай дарозе; для ўсіх, каго перасьледуюць паліцыянты несправядлівага рэжыму, як нявінных бэтлеемскае акругі.

Цэлыя народы нішчаныя, перасьледаваныя й выгнаныя ўважаюць гэты дзень за сымбаль даверу ў Божую апеку над слабымі, у праслаўляньне добрае волі, ды ў канчатковую пераможнасьць справядлівасьці, права й дабра.

### РАДАСЬЦЬ І НАДЗЕЯ ДЛЯ НАС

Я хацеў-бы пераслаць гэтыя словы кажнаму беларускаму хрысьціяніну, дзе-б ён ня быў: на сваёй роднай зямлі пад падвойным прыціскам камунізму, ці вывезены на Ўсход або выгнаны з дому на Захад.

У сусьветнай гісторыі народы крочаць часта крывымі й стромымі дарогамі. Рэдка бывае, каб нацыі, навет найбольш моцныя й слаўныя не перажывалі няспрыяльных часоў, часоў няўдачаў ды ўпадку. Сьвята, як Каляды, павінна прыпамінаць, што побач ночы ў бэтлеемскіх ясьлях і побач эгіпскага выгнаньня былі й гады спакойнага жыцьця ў сямейным крузе ў Назарэце, ды й самыя ўцёкі ў Эгіпт і паварот адтуль былі загаданыя Богам і сталіся пад провадам анёла- абаронцы. Гэтыя важныя заўвагі адносяцца, зразумела, да кажнага хрысьціяніна, ня гледзячы да якое нацыі ён належыць, а асабліва да тых, якіх грабіць і тэрарызуе камунізм. Беларуская-ж нацыя можа быць гордай із свае слаўнае мінуўшчыны й жыцьцёвае сілы, якія, пасьля стагодзьдзяў чужога панаваньня й уціску дазволілі ёй перажыць гэтае ярмо. Яна можа цешыцца больш, як усе іншыя, што традыцыі і любоў да бацькаўшчыны перахаваліся ў кіруючай эліце і ў моладзі, якой я ня хістаюся паставіць у прыклад усім эміграцыям як мінуласьці, так і сучаснасьці.

Я ўважаю, што гэтая эліта й гэтая моладзь зьяўляюцца зарукаю пасланай Богам для будучыні беларускага народу.

Столькі разоў у часы заняпаду Бабілёну, заняпаду, які цягнуўся каля 70 гадоў, прарокі Ізраэлю гаварылі ў сваёй мэсыянічнай паэзіі пра »малое стада», што Бог пакінуў збоку і выратаваў і, што аднаго дня, яно станецца насеньнем вялікага народу, у дні Мэсыі.

Да таго часу, пакуль беларускі народ мецьме на вольнай зямлі гэткую эліту і гэткую моладзь і, якія застануцца вернымі свайму прызначэньню, датуль для гэтага народу яны будуць зарукай ягонага ўваскрашэньня й жыцьця.

Я жадаў-бы, каб сьвята Калядаў было для Беларусі днём радасьці ды гордасьці з свае нацыянальнае годнасьці, у дусе старое песьні Пагоні, у першую чаргу для моладзі, а асабліва для моладзі студэнцкае; днём надзеі ды нагодай усьведаміць яшчэ раз сваё выняткoвае прызначэньне й свае абавязкі: стацца «малым стадам», аб якім гаварылі прарокі Ізраэлю, насеньнем вялікага ўраджаю й праваднікамі вялікага народу, які, у сваёй маральнай велічы і ў прыкладах хрысьціянскае дабрачыннасьці, ня будзе горшым за ніякі іншы.

Робэрт ван Каўэлярт дэ Уэйльс



Абраз слыннага італьянскага мастака з Флёрэнцыі Gherardo della Notti

# Супакой Людзям Добрай Волі

Ізноў Каляды...

У гэтыя сьвяткі сэрца кажнага хрысьціяніна ўздрыгне і не аднаму сплыве сьляза на задуманы твар.

Будзем успамінаць лепшыя Каляды. Ня важна, дзе і калі мы іх праводзілі і ў чым тоіцца тое «лепшае».

Куцьця, сямейны круг навокал накрытага сенам і белым абрусом стала. Свой родны кут, свой абычай, пад сьнежнай бельлю аддыхаючая Беларусь...

А сяньня?

Добра, калі ўдалося некім цудам ратаваць жыцьцё — біялягічную эгзыстэнцыю. Куды лепш, калі кіданая рознымі хвалямі ўцалела сям'я, ратаваўся брат, сястра, сын або дачка. Каляды — гэта перадусім сьвята сям'і. Таму мы і лічым сваіх найбліжэйшых. Калі каго не далічымся, цяжкім каменем кладзецца на сэрцы сум, асабліва ў сьветлазорную каляднюю ноч. Апрача таго кажнага з нас гнобяць нязбытыя лятуценьні, раськіданае гняздо, доля выгнаньня.

І не аднаму з нас цісьнецца ў голаў назойлівае пытаньне: дык ці-ж запраўды хрысьціянства апраўдвае сябе? Ці-ж запраўды кіруе сьветам разумны Вогляд Божы, а не прыпадак нейкі ці воля і сіла дужэйшага?

*

Браце! Хоць на хвілінку скажы сваім заботам і хлопатам, каб цябе пакінулі ў супакою. Тады на крыльлях дум перанясіся ў далёкую мінуўшчыну, у той дзіўны край, дзе «многа раз і рознымі спосабамі гаварыў некалі Бог айцом праз прарокаў; урэшце гэтымі днямі гаварыў нам праз Сына, каторага паставіў насьледнікам усяго, праз каторага і вякі стварыў» (Жыд. 1, 1).

Прыглядзься прыйсьцю на сьвет таго, каторы ёсьць «насьледнікам усяго, праз каторага і вякі стварыў». Беднасьць — але радасьць, пагарда земскай славай і багацьцем — але веліч Боская ў васобе кволага Дзіцятка. Пастухі прыносяць яму свае дары, анёлы свае напевы.

Прачытайма расказ сьведкі першай рукі: якая прастата, скромнасьць і які чар б'е з кажнага яго слова:

«І калі яны там былі, надыйшоў ей час радзіць. І радзіла сына свайго перварoднага, спавіла яго ў пялёнкі і палажыла ў жолабе, бо ня было ім месца ў заезьдзе. Былі-ж у тэй ваколіцы пастухі, якія вартавалі ў ночы стаду сваю. І вось анёл Госпада зьявіўся пры іх і яснасьць Божая асьвяціла іх, чаго яны моцна перапалохаліся. І сказаў ім анёл: ня бойцеся, бо вось абвяшчаю я вам вялікую радасьць, якая будзе для ўсяго народу: бо сяньня ў месьце Давіда нарадіўся вам Збаўца, каторы ёсьць Хрыстусам Госпадам. І вось вам знак: знойдзіце дзіця, спавітае ў пялёнкі і паложанае ў жолабе. І раптам зьявілася з анёлам мноства духаў нябесных, якія славілі Бога і казалі: хвала на вышыні Богу, а на зямлі супакой людзям добрае волі» (Лук. 2, 6-14).

Ня цікавілася-б людзтва гэтай прыгожай ідыльляй прыйсьця на сьвет Хрыста, каб тое народжанае ля Бэтлеему Дзіцятка не загаварыла пазьней. А мова яго дзіўная, якой сьвет яшчэ ня чуў.

«Багаслаўлёны ўбогія духам, іх бо ёсьць валадарства нябеснае. Багаслаўлёны ціхія, бо яны будуць пацешаны. Багаслаўлёны, што прагнуць і смагнуць справядлівасьці, бо яны будуць насычаны. Багаслаўлёны чынячыя згоду, бо яны будуць названы Божымі сынамі»..

«Адпускаюцца табе грахі твае». «Аддайце цэзару, што ёсьць цэзарава, а Богу Божае». «Багаслаўлёны, што слухаюць слова Божае і выпаўняюць яго».

«У гэны час казаў Езус жыдоўскім грамадам: хто з вас дакажа ўва мне грэх? Калі я вам праўду кажу, чаму вы мне ня верыце?»

(Заканчэньне на 2 балоне)

Усіх Беларусаў каталікоў вітаем зь вялікім сьвятам Нараджэньня Хрыста!

Усіх Беларусаў на эміграцыі паздраўляем з Новым 1953 Годам і жадаем, каб ён прынёс як найвялікшыя посьпехі ў нашым нацыянальна-вызвольным змаганьні за Вольную й Незалежную Беларусь!

Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»

З нагоды каталіцкіх і праваслаўных Калядных Сьвятаў і Новага Году Беларускі Нацыянальны Камітэт у Нямеччыне віншуе ўсе беларускія арганізацыі і паасобных Беларусаў на эміграцыі і пераказвае ім свае найшчырэйшыя пажаданьні.

# Дауно насьпеушая справа

### ДА ПЫТАНЬНЯ СТВАРЭНЬНЯ ПАЛІТ ЫЧНАГА ЦЭНТРУ НЕРАСЕЙСКІХ НАРОДАЎ

#### МІНУЎШЧЫНЯ НАС НІЧОГА НЕ НАВУЧЫЛА

З пасярод некалькі аснаўных прычынаў, чаму нерасейскія народы былай царскай Расеі не змаглі ўтрымаць абвешчаных і створаных імі ў 1917—18 г. г. незалежных дзяржаваў, была, між іншымі, адсутнасьць цеснага ўзаемнага супрацоўніцтва, узгодненага супольнага пляну й каардынацыі дзеяньня, у чым, да рэчы, згодныя бадай што ўсе палітыкі гэтых народаў. Кажны народ, праяўляючы задзіўляючы гэраізм і не шкадуючы ахвяраў за сваю вызвольную справу, дзеіў на собскую руку, ягоная палітычная й вайсковая дзейнасьць была ізаляваная ад такой-жа дзейнасьці іншых народаў, што расейскаму бальшавізму дало магчымасьць хутка расправіцца з кажным паасобку.

Здавалася-б тады, што з гэтых падзеяў мінулага кажны з паняволеных народаў, у васаблівасьці іхныя палітычныя кіраўніцтвы павінны былі-б выцягнуць адпаведную навуку на будучыню. Гэтыя народы, вядучы сваё няўпыннае змаганьне за дасягненьне мэтаў, якіх не ўдалося дасягнуць пасьля першае сусьветнае вайны, здавалося-б, павінны былі-б вызнаць цеснае між сабою супрацоўніцтва й каардынаваньне супольнага дзеяньня за адзін з найважнейшых пунктаў сваей вызвольнай стратэгіі. Палітычныя эміграцыі гэтых народаў, якія асабліва сяньня, у сувязі зь нязвычайным завастрэньнем дачыненьняў між Захадам і Ўсходам і насьпяваньнем няухільнага між імі ваеннага канфлікту, моцна зактывізавалі сваю палітычную дзейнасьць, павінны-б былі справе кансалідацыі супольных сілаў, узгадненьню й каардынацыі сваей палітычнай лініі, узгодненай і для ўсіх спрыймальнай канцэпцыі перабудовы падсавецкага Ўсходу, як і ўстанаўленьню пляну супольнае акцыі на будучыню ў выпадку эвэнтуальнай вайны з Савецкім Саюзам прысьвяціць галоўную ўвагу. Асабліва важнае мае ў гэтых дачыненьнях значэньне супольнае і ўзгодненае выступленьне палітычных прадстаўніцтваў гэтых народаў навонкі, перад адказнымі палітычнымі дзейнікамі заходняга, перадусім амэрыканскага, сьвету, які сяньня пачаў цікавіцца нашай вызвольнай праблемай і прадпрыймаць канкрэтныя меры дзеля выкарыстаньня нашых вызвольных сілаў у супольным змаганьні з бальшавізмам.

Калі прыгледзіцца да дасюлешняй дзейнасьці палітычных эміграцыяў паняволеных народаў, дык трэба, на жаль, прыйсьці да вывадаў даволі сумных. Агульнай каардынацыі дзейнасьці й ейных плянаў на будучыню сярод эміграцыяў нерасейскіх народаў фактычна няма, а тое, што рабілася й робіцца ў гэтым кірунку, зьяўляецца далёка недастатковым. Ужо той факт, што да гэтага часу не паўстаў на эміграцыі супольны палітычны, або прынамсі каардынайцыйны, цэнтр нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу, вымоўна гаворыць за тым, што супрацоўніцтва між імі яшчэ не пастаўленае на адпаведнай узроўні, ёсьць нясыстэматычным і прыпадковым. Наколькі адмоўна адбілася на супольных інтарэсах паняволеных народаў адсутнасьць такога цэнтру, паказала акцыя Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі ў кірунку мантаваньня супольнага з расейцамі антыбальшавіцкага фронту. Замест гаварыць з агульнай рэпрэзэнтацыяй нерасейскіх народаў, як з паважнай сілай, якая магла-б зраўнаважыць, калі навет ня пераважыць, сілы расейскія, Амэрыканскі Камітэт і расейцы мелі ўсе магчымасьці з кажнай нерасейскай нацыяй дагаварвацца асобна, аднэй ісьці на большыя, як паказаў прыклад з грузінамі, другой на меншыя ўступкі, выкарыстоўваць розныя апартуністычныя элемэнты й авантурыстычныя фікцыі дзеля шантажаваньня й зашахоўваньня запраўдных і аўтарытэтных нацыянальных прадстаўніцтваў, або замяняць імі апошнія. Шкодныя вынікі такой сытуацыі не далі на сябе доўга чакаць. Гэта й прывяло да паўстаньня КЦАБ-у зь ягонай сяньняшняй арганізацыйнай структурай і палітычнай праграмай, якія для нерасейскіх народаў пад кажным паглядам зьяўляюцца не да прыняцьця. Сяньня, на аснове практыкі мантаваньня КЦАБ-у, можна быць амаль пэўным, што калі-б нацыянальныя прадстаўніцтвы нерасейскіх народаў былі скансалідаваныя й выступалі навонкі за пасярэдніцтвам супольнага цэнтру, як іхнай міжнацыянальнай рэпрэзэнтацыі, дык КЦАБ у тэй форме й з тэй палітычнай праграмай, якім ёсьць ён сяньня, паўстаць ня мог-бы, і ёсьць шмат дадзеных на тое- што ўжо даўно існавала-б і дзеіла-б, замест няўдалага эрзацу праектаванага амэрыканцамі цэнтру ў форме КЦАБ-у, запраўды дэмакратычная, абапёртая на прынцыпе роўнасьці й раўнапраўнасьці ейных партнэраў, антыбальшавіцкая арганізацыя падсавецкіх народаў навет незалежна ад таго, ці знайшліся-б такія расейскія дэмакратычныя групы, што згадзіліся-б прыняць антыімпэрыялістычную плятформу, ці не, бо амэрыканцы з такім цэнтрам нерасейскіх народаў былі-б змушаныя лічыцца ня меней, чымся з расейцамі.

#### ПЕРАШКОДЫ МОГУЦЬ І ПАВІННЫ БЫЦЬ ПЕРАМОЖАНЫЯ

Калі прааналізаваць узаемадачыненьні палітычных прадстаўніцтваў паняволеных народаў СССР і канцэпцыі іхнага змаганьня, дык ня цяжка прыйсьці да перакананьня, што гэтыя палітычныя дзейнікі, будучы заабсэрбаванымі дробнымі й неактуальнымі на сяньня справамі, ня бачаць за імі сваей аснаўной мэты, якой ёсьць і можа быць іхнае вызваленьне й адбудова собскай дзяржаўнасьці. Выглядае, што палітыкі паняволеных народаў заглядаюцца на справу свайго вызваленьня, як на акт, які сам сабой у вадпаведны мамэнт аўтаматычна зрэалізуецца, а таму ў сваіх палітычных плянах болей прысьвячаюць увагі справе будучых дзяржаўных межаў, палітычнай і гаспадарскай экспансыі і вынікаючых з гэтага супярэчнасьцяў зь іншымі народамі, чымсьці самой справе вызваленьня. Досыць сяньня пpаглядзіць карты паасобных народаў СССР, на якіх іхныя палітыкі вызначаюць межы сваіх будучых дзяржаваў, каб пабачыць, што некаторыя нацыі ўяўляюць гэтыя межы ня згодна з фактычным станам этнаграфічным, але паводля сваіх суб'ектыўных пажаданьняў, улазячы як найдалей на тэрыторыю сваіх суседзяў. Ясна, што такая каротказоркая палітыка ня можа ўзбудзіць узаемнага даверу між паасобнымі народамі, а тым болей прывесьці іх да шчырага палітычнага супрацоўніцтва.

Гэты нездаровы «імпэрыялізм» народаў, што ня маюць сваіх дзяржаваў і за здабыцьцё якіх яшчэ будуць змушаныя крывава змагацца, зьяўляецца аднэй з найвялікшых перашкодаў у наладжаньні супольнага палітычнага супрацоўніцтва, як і нечым недарэчным, карыкатуральным і нявымоўна шкодным для гэтых народаў, узятых паасобку і разам. Ці-ж не карысьней і разумней было-б усе такія няўзгодненыя спрэчныя пытаньні пакінуць у спакоі, адлажыць іх на будучыню, калі іх можна будзе вырашыць шляхам дэмакратычнага народнага волявыяўленьня або іншых пагадненьняў, а ўсю ўвагу сканцэнтраваць сяньня на справах кардынальных, без дасягненьня якіх ня можа навет быць і мовы аб рэалізацыі гэных дробных гранічных прэтэнсыяў, будучай экспансыі ці ролі ў будучай групе вольных народаў і дзяржаваў падсавецкага Ўсходу?

Другой прычынай, што стаяла дагэтуль на перашкодзе стварэньня аўтарытэтнага міжнацыянальнага цэнтру, была, на нашую думку, адсутнасьць нутранай кансалідацыі ў нутры палітычных эміграцыяў некаторых падсавецкіх народаў, якія не змаглі да апошняга часу стварыць адзінага собскага нацыянальнага прадстаўніцтва. Найбольш вымоўным прыкладам такіх нутраных разыходжаньняў у дадзеным выпадку могуць служыць украінцы, сярод якіх ёсьць аж некалькі канкуруючых палітычных групаў, кажная зь якіх хацела-б сябе бачыць у ролі агульнанацыянальнага прадстаўніцтва. Такое палажэньне, ясна, ня можа спрыяць міжнацыянальнай кансалідацыі, бо якая-б украінская група ня ўвайшла ў супольны палітычны цэнтр нерасейскіх народаў, у сілу сваей сытуацыі й сваіх асьпірацыяў у нутры ўкраінскага грамадзянства, зусім натуральным парадкам выклікала-б засьцярогі, а навет супрацьдзеяньне астальных, ня менш аўтарытэтных,

(Заканчэньне на 4 балоне)

## Карэйскія пляны

**Заходняя прэса апошнім часам прысьвячае шмат увагі нядаўнай візыце новавыбранага прэзыдэнта ЗША ген. Айзэнгаўэра ў Карэі й робіць розныя здагадкі што да далейшых плянаў карэйскае вайны. Да найбольш праўдападобных гіпатэзаў трэба залічыць высказваньні на гэтую тэму Р. Ф. у артыкуле, зьмешчаным пад вышэйшым загалоўкам у нямецкім тыднёвіку «Рэйнішэр Мэркур» за 12. 12. 52, зь якім ніжэй знаёмім нашых чытачоў.**

**Рэдакцыя**

*

Згодна з сваім абяцаньнем Айзэнгаўэр лётаў на Карэю, але ад гэтага ня стаўся ніякі цуд. Яго паважаюць, што ён даканаў гэта сам асабіста. Тое, што ў сучасны мамэнт няма ніякіх новых вестак з далёкага паўвострава, у многіх мясцох было прынята з пачуцьцём палёгкі. Айзэнгаўэр заявіў, што ён ня думае аб пашырэньні канфлікту. Гэта выключае магчымасьць бамбардаваньня Манджурыі й выкарыстаньня нацыянальных кітайскіх збройных сілаў, чаго некаторыя якраз жадаюць. Айзэнгаўэр ня будзе наражаць на авантуру сваей краіны й цэлага сьвету.

Але новы прэзыдэнт зьяўляецца натуральна ня менш гатовым здаць Карэю. Можна прыпушчаць, што ён — адпаведна праграме дынамічнай замежнай палітыкі — навет прадпрыйме некаторую актыўнасьць у Карэі. Ён гаварыў аб тым, што пазыцыя Задзіночаных Нацыяў павінна быць узмоцненая. Гэта можа абазначаць, што зьяўляецца плянаванай новая афэнзыва ў канцы карэйскай зімы з ужыцьцём тактычнай атамнай зброі, маючы за мэту адсунуць лінію фронту да найвузейшай часьці паўвострава. Заашчаджаныя такім спосабам войскі маглі-б быць затрыманыя ў рэзэрве, а адначасна былі-б выкарыстаныя ў большым разьмеры войскі Паўдзённай Карэі. Такім чынам Айзэнгаўэр быў-бы бліжэйшым выкананьня свайго абяцаньня, апрача гэтага маглі-б тады французы разьлічваць на большае зацікаўленьне амэрыканцамі Індакітаем, што мела-б узноў пазытыўны ўплыў на разьвіцьцё эўрапэйскіх збраеньняў. Само сабой зразумела, усё гэта зьяўляюцца толькі далёкія прыпушчэньні, і калі-б зь якіх-колечы прычынаў немагчымай сталася большая афэнзыва, то нельга прадбачваць нейкага звароту ці канца вайны на Карэі.

Схільны да нэўтралітэту «Ле Монд» радзіць дзеля гэтага здаць Карэю. На думку гэтай газэты, паўвостраў зьяўляецца малога стратэгічнага значэньня, Задзіночаныя Нацыі сваю мэту — адкінуць агрэсара — фактычна дасягнулі, а сыстэма Сынгмана Ры не зьяўляецца годнай абароны. Гэта зьяўляецца небясьпечнай і дэмагагічна прыцягальнай тэзай, у чым бальшавікі будуць бачыць толькі азнакі слабасьці, затое яны заўсёды выказваюць схільнасьць да адступленьня, калі заўважаюць, што Захад зьяўляецца сільным.

Новы прэзыдэнт падчас паваротнай дарогі з Карэі праводзіў на Ціхім акіяне нарады із сваімі найважнейшымі супрацоўнікамі. У гэты мамэнт мы яшчэ ня ведаем, які прыйме курс новая амэрыканская замежная палітыка ў Усходняй Азыі. Але можна быць пэўным, што Айзэнгаўэр ня пойдзе на небясьпечную авантуру, як і не паддасца самагубнаму дэфэтызму. Ягоныя назначэньні, якія ён правёў, і асьветчаньні, якія ён зрабіў пасьля сваго выбару, даказваюць, што ён будзе весьці сваю палітыку бяз увагі на дактрынэрскія або партыйныя эгаістычныя інтарэсы. Гэтаму трэзваму й сьвядомаму адказнасьці мужу можа Захад давяраць.

# Весткі з шырокага сьвету

**Айзэўнаўэр апрацоўвае пляны вайны ў Карэі.** Пасьля заканчэньня сваей трохдзённай візыты ў Карэі, Айзэнгаўэр ад 8 сьнежаня знаходзіцца на крэйсары «Гэлена» ў паваротнай падарожжы ў ЗША, на якім увесь час адбывае тайныя нарады із сваімі найбліжэйшымі супрацоўнікамі ў справе праграмы будучага ўраду Амэрыкі, перадусім у справе далейшага вядзеньня карэйскай вайны. У нарадах прыймаюць удзел будучы міністар замежных справаў Далес, міністар нутраных справаў Мэк Кэй, міністар абароны Вільсон і міністар фінансаў Гамфрэй, якія разам зь ім адведвалі Карэю. Апрача іх, іншыя супрацоўнікі будучага прэзыдэнта, між імі былы ваенны губэрнатар у Нямеччыне Л. Клей, прыбылі спэцыяльна з Амэрыкі на борд крэйсара й прымаюць ужо ўдзел у далейшых нарадах.

**Айзэнгаўэр спаткаецца з Мэк Артурам.** Айзэнгаўэр, вяртаючыся з Карэі на крэйсары «Гэлена», зьвярнуўся тэлеграфічна да былага галоўнакамандуючага збройных сілаў Задзіночаных Нацыяў у Карэі ген. Мэк Артура з просьбай пазнаёміць яго зь ягоным плянам заканчэньня карэйскай вайны. Айзэнгаўэр запрапанаваў для гэтае мэты асабістае спатканьне зь ген. Мэк Артурам і апошні гэтую прапазыцыю прыняў. Генэрал Мэк Артур, як ведама, быў прэзыдэнтам Труманам на пачатку 1951 году адкліканы із свайго становішча дзеля таго, што ён адкрыта высказваўся за сваім плянам вядзеньня вайны, які быў супярэчным з палітыкай амэрыканскага ўраду. Апошнім часам Мэк Артур паведаміў, што ён мае апрацаваны плян заканчэньня вайны ў Карэі, які аднак з матываў бясьпечнасьці ня можа быць апублікаваным. Спадзяюцца ў паінфармаваных колах, што спатканьне Айзэнгаўэра з Мэк Артурам адбудзецца ў найбліжэйшых днях.

**На карейскім фроньце зацішша.** З прычыны вялікіх маразоў ужо ад даўжэйшага часу абмежваецца ваенная дзейнасьць на карэйскім фроньце да актыўнасьці лётніцтва, тады, калі наземныя апэрацыі зводзяцца толькі да спарадычных артылерыйскіх перастрэлак і дзейнасьці разьведвальных аддзелаў. 10 сьнежаня два кітайскія батальёны прабавалі атакаваць пазыцыі ЗН над ракой Імын на заходнім адрэзку фронту, але былі адбітыя. Лёгкія й цяжкія бамбавікі ЗН, якія часткава стартуюць з авіяносцаў, прадаўжаюць і надалей атакаваць калёны пастачаньня ворага, як і ваенную індустрыю Паўночнай Карэі.

**Французы спадзяюцца неспадзяванага ўдару ў Індакітаі.** Зацішша вакол акружанай камуністычнымі паўстанцамі Ветміну французскай крэпасьці Назам, якое пануе ўжо некалькі дзён, непакоіць французскае камандаваньне ў Індакітаі. Французы спадзяюцца, што камуністычныя сілы былі адцягнутыя з падНазаму з мэтаю неспадзяванага заатакаваньня іншага важнага для французаў пункту. Уважаецца за магчымае, што камуністыя заатакуюць цяпер Ляй Чоў, сталіцу правінцыі Таі, якая ўжо ад некалькі тыдняў знаходзіцца пад тэрорам дробных камуністычных аддзелаў. Камуністычныя паўстанцы Ветміну дагэтуль прыпускалі дзьве атакі супраць Назаму, але былі зь вялікімі для іх стратамі адбітыя.

**Крывавыя заварушэньні ў Мароко.** Трываючае ад даўжэйшага часу напружаньне ў паўночна-афрыканскіх французскіх уладаньнях вылілася 7 і 8 сьнежаня ў крывавыя заварушэньні, падчас якіх, пасьля ўвядзеньня ў акцыю французскіх войскаў, было многа забітых і раненых. Непасрэднай прычынай неспакояў былі страйкі, пры помачы якіх мароканцы дэманстравалі супраць замардаваньня лідэра туніскіх прафэсыянальных саюзаў. Асабліва цяжкія выпадкі мелі месца ў мараканскім горадзе Касаблянцы, дзе ў мараканскім квартале гораду былі знойдзеныя змасакраваныя трупы двух цывільных французаў. Калі 3.000 дэманстрантаў заатакавалі паліцэйскія пасты, французскія каляніяльныя вайсковыя аддзелы адкрылі па дэманстрантах агонь. У выніку гэтага было забітых 57 чалавек, у тым ліку сем эўрапэйцаў, а звыш 200 асобаў знаходзіцца ў шпіталях. Дзякуючы войстраму вайсковаму супрацьдзеяньню, — між іншым у Касаблянцы былі ўжытыя танкі — наступіла ўспакаеньне. Далейшымі контрамерамі была забарона 11 сьнежаня дзейнасьці ў французскім пратэктараце ў Мароко камуністычнай партыі і мараканскага незалежніцкага руху п. н. «Істыгляль», як і арышты многіх мараканскіх палітыкаў, перадусім камуністых.

**Справа Тунісу на парадку дзенным ЗН.** Пасьля заканчэньня дэбатаў над справай Карэі прыняцьцем індыйскага праекту, распачала палітычная камісыя ЗН другі пункт свайго парадку дня, якім ёсьць пытаньне Тунісу. Дэбаты над пытаньнем Тунісу былі французскай дэлегацыяй збайкатаваныя. Францыя трымаецца пагляду, што Туніс зьяўляецца нутранай французскай справай і Задзіночаныя Нацыі не павінны ў яе ўмешвацца. Брытанская дэлегацыя падтрымлівае ў гэтым пытаньні пазыцыю Францыі. Амэрыка, арабскія дзяржавы, як і некаторыя іншыя краіны Захаду высказаліся за тым, што ЗН мае права разглядаць гэтае пытаньне. Ніякая ў гэтай справе пастанова яшчэ ня была прынятая.

**Далейшыя арышты ў Чэхаславаччыне.** Белградзкае радыё, паклікаючыся на ўрадавае інфармацыйнае агенцтва Югаславіі «Таньюг», паведаміла 8 сьнежаня аб новай хвалі арыштаў у Чэхаславаччыне, ахвяраю якіх пала пяць былых міністраў Чэхаславаччыны на чале з былым прэм'ерам Здэнкам Фірлінгерам. Апрача Фірлінгера, былі арыштаваныя былы ваенны міністар ген. Людвік Свабода, былы міністар замежных справаў Антон Грэгор, былы міністар дзяржаўнай бясьпечнасьці Уладзімер Копрыва, былы міністар працы Эўцэн Эрбан і былы міністар цяжкага машынабудаўніцтва Густаў Клімэнт. Далей многа было арыштаваных іншых сяброў камуністычнай партыі Чэхаславаччыны.

**Перад паказовым працэсам у Ўсходняй Нямеччыне.** Як паведаміла заходнябэрлінская газэта «Тэлеграф», 9 сьнежаня быў арыштаваны ў усходнім Бэрліне Гэрман Матэрн, сябра палітбюра СЕД і кіраўнік цэнтральнай партыйнай кантрольнай камісыі, які займаў такім чынам ключовыя становішчы ў партыйнай герархіі. Яму закідаюць, што ён меў сувязі з засуджанай нядаўна групай чэхаславацкіх камуністых на чале з Сланскім. «Тэлеграф» далей паведамляе, што Матэрн будзе праўдападобна галоўным абвінавачаным у паказовым працэсе, які цяпер прыгатаўляецца на ўзор паказовага працэсу ў Празе. Ужо апрацоўваецца акт абвінавачаньня таксама супраць былага сябры цэнтральнага камітэту СЕД Мэркэра, як і іншых высокіх дзяржаўных функцыянэраў савецкае зоны, між імі, супраць былага генэральнага дырэктара чыгункі Крайкэмаера. Прозьвішчы іншых абвінавачаных яшчэ ня ведамыя.

**Вышынскі выехаў зь Нью Ёрку.** Савецкі міністар замежных справаў Вышынскі, які ачольваў савецкую дэлегацыю на пленарнай сэсыі ЗН, 9 сьнежаня пакінуў Нью Ёрк і выехаў у Савецкі Саюз. Падчас ад'езду асьветчыў ён прадстаўніком прэсы, што пленарная сэсыя «не зьяўляецца інструмэнтам міру».

**Перад новымі рэформамі ў Эгіпце.** Прэм'ер-міністар Эгіпту ген. Наджыб падаў 10 сьнежаня да ведама, што будзе грунтоўна зьмененая эгіпская канстытуцыя й што пакліканая ўжо спэцыяльная камісыя для апрацаваньня праекту новай канстытуцыі. У сувязі з гэтым дасюлешняя канстытуцыя ўжо не абавязвае, а да часу апрацаваньня новай канстытуцыі атрымаў эгіпскі ўрад поўныя паўнамоцтвы. Хаця ген. Наджыб нічога ня ўспомніў аб ліквідацыі манархіі, аднак уважаецца, што новая канстытуцыя будзе мець рэспубліканскі характар. Паводля дасюлешняй канстытуцыі, заявіў ген. Наджыб, эгіпскі парлямант знаходзіўся пад уплывам ураду, а ў новай канстытуцыі ўрад павінен быць адказным перад парлямантам. Зьмена канстытуцыі, паводля ген. Наджыба, зьяўляецца неабходнай дзеля дасягненьня мэтаў вайсковага перавароту.

**Амэрыканцы будуць купляць пэрскую нафту.** Міністэрства замежных справаў ЗША афіцыяльна паведаміла, што амэрыканскі ўрад ня мае нічога проціў, каб амэрыканскія нафтавыя таварыствы куплялі непасрэдна нафту ў Пэрсыі паміма брытанскай забароны. Гэтым супольны ангельска-амэрыканскі фронт у пэрскім нафтавым канфлікце зьяўляецца зломаным.

**Кардынал Спэльман у Карэі.** Каталіцкі арцыбіскуп у Нью Ёрку, кардынал Спэльман, 17 сьнежаня выляцеў у Карэю, дзе, як і ў мінулым годзе, будзе цэлебраваць падчас калядніх сьвятаў тры імшы для жаўнераў на фроньце.

**Зьмяншаюцца збраеньні Атлянтычнага пакту.** Збройныя сілы Атлянтычнага пакту ў Эўропе дасягнулі з канцом бягучага году стан 25 поўнасьцю змабілізаваных дывізыяў, прадбачаны пастановай канфэрэнцыі ў Лісбоне НАТО ў лютым сёлета. Затое ў канцы 1953 году гэты стан будзе на 15% ніжэйшы ад запраектаванага ў Лісбоне. Гэткія дадзеныя падае агенцыя Ройтэр, абапіраючыся на аблічэньнях сваіх карэспандэнтаў з 14 сталіцаў дзяржаваў, што ўваходзяць у склад Атлянтычнага пакту. Апрача 25 дывізыяў лінейных, атлянтычныя збройныя сілы будуць мець 25 запасных дывізыяў, як прадбачана ў Лісбоне, але гэтыя апошнія ня будуць аднак мець поўнага складу ані дастатковага ўзбраеньня. Што датычыцца лётніцтва, дык у гэтым годзе ня будзе дасягнуты прадугледжаны стан 4.000 самалётаў усякіх тыпаў, а ў 1953 годзе розьніца між станам фактычным і заплянаваным будзе яшчэ большая. Ройтэр падае тры прычыны нявыкананьня праграмы НАТО: 1. сталы й што раз большы адплыў альянцкіх сілаў на Ўсход, перадусім у Карэю й Індакітай, 2. ашчаднасьцёвыя абмежаваньні плянаў збраеньняў паасобнымі дзяржавамі і 3. факт, што некаторыя дзяржавы за аптымістычна ацэньвалі ў Лісбоне свае прадукцыйныя магчымасьці.

**Французскі абаронны бюджэт.** Былы французскі прэм'ер-міністар Рэйно, а цяперашні старшыня фінансавай камісыі Нацыянальнага Сабраньня, асьветчыў 10 сьнежаня перад французска-брытанскай парлямацкай камісыяй, што Францыя выдае для абаронных мэтаў шмат болей, чымся Вялікабрытанія. Ён паказаў на тое, што французскія дзяржаўныя даходы зьяўляюцца на 30—40% ніжэйшыя за брытанскія, аднак Францыя выдае на абарону столькі сама, што й Вялікабрытанія. Таксама Францыя мае шмат болей жаўнераў пад зброяй чымся Вялікабрытанія.

**Сусьветная прадукцыя нафты.** Нядаўныя выпадкі ў Іраку былі прычынай, што заходні сьвет быў змушаны ўзноў зьвярнуць галоўную ўвагу на Блізкі Ўсход. Ірак із сваей прадукцыяй 8,3 мільёнаў тонаў нафты ў год стаіць на 8 месцы між іншымі краінамі сьвету, выдабываньне нафты якога ў гэтым годзе павялічылася на 2,1 мільёнаў тонаў. Наколькі адмоўны мела ўплыў нацыяналізацыя нафтавай індустрыі ў Пэрсыі, паказвае факт, што гэты край у 1951 годзе выпрадукаваў нафты толькі 16,8 мільёнаў тонаў супраць 31,8 мільёнаў у 1950 годзе. Такім чынам Пэрсыя зыйшла з 4 на 6 месца ў сусьветнай прадукцыі нафты. На цэлым сьвеце ў 1951 годзе было выпрадукавана 590 мільёнаў тонаў нафты, паименна: ЗША — 307,5 мільёнаў тонаў, Вэнэцуэля — 89,0, СССР — 42,4, Саўдзі-Арабія — 37,5, Кувэйт — 28,3, Пэрсыя — 16,9, Мэксыка — 11,0, Ірак — 8,4, Інданэзыя — 7,4, Канада — 6,2, Калюмбія — 5,4, Брытанскае Борнэо — 5,0, Румынія — 4,3, Аргентына — 3,5, Трынідад — 3,0, Эгіпт — 2,4, Оатар — 2,3, Аўстрыя — 2,3, Пэру — 2,1, Барэйн — 1,5, Заходняя Нямеччына — 1,4, астальныя краіны — 2,2. Разам — 590,0 мільёнаў тонаў.

# Дауно насьпеушая справа

(Заканчэньне)

украінскіх угрупаваньняў. Хаця гэтая прычына зьяўляецца таксама важнай, аднак, нам здаецца, ня ёсьць яна неперbeforeможнай. Калі ўсе, навет узаемна варожыя ўкраінскія палітычныя арганізацыі знайшлі супольную мову ў сваей дэкляpacыі з 25 чэрвеня 1952 году ў справе акцыі Амэрыканскага Камітэту, дык пры добрай волі магла-б быць знойдзеная гэтая супольная мова ў рамах прапанаванага намі супольнага цэнтру нерасейскіх народаў.

Апрача гэтых дзьвюх існуе, як нам здаецца, яшчэ трэйцяя прычына, аб якую разьбіваюцца намаганьні палітычных арганізацыяў нерасейскіх народаў СССР дзеля скаардынаваньня сваей вонкавай палітыкі, прычына бадай што найважнейшая. Прыглядаючыся да палітычнай дзейнасьці эміграцыяў з Усходу й іхных спробаў супольнае акцыі, таксама ня цяжка заўважыць, што некаторыя зь іх, апіраючыся або на вялікую лічбовасьць свайго народу ,або на ступень сваей арганізаванасьці, нацыянальнай дасьпеласьці й палітычнай актыўнасьці, або, напасьледак, на адно й другое, бяскрытычна пераацэньваюць свае магчымасьці і ўважаюць, што яны зьяўляюцца на столькі сільнымі, а іхная ўдзельная вага ёсьць на столькі вялікая, што ім выгадней выступаць перад заходнім сьветам зусім самастойна й незалежна ад іншых народай, якія, на іхную думку, могуць зьяўляцца толькі лішнім цяжарам для іхнай собскай акцыі. Апінія беларускай эміграцыі на столькі ўжо сталася ў гэтым пытаньні адназгоднай, што нашыя чытачы адразу здагадаюцца, — у чым мы ня сумляваемся — што маем на думцы ўкраінцаў (сярод народаў Каўказу да падобнай ролі пратэндуюць, здаецца, грузіны). Нам было-б прыемна, калі-б мы мыляліся, але многія факты паказваюць на тое, што нашыя прыпушчэньні правільныя. Беларускія эміграцыйныя палітыкі, як і палітычныя дзеячы іншых народаў з узаемадачыненьняў з украінцамі вынесьлі дасьветчаньне, што ўкраінскія колы ахвотна прыступаюць і самі ініцыююць толькі такія міжнацыянальныя арганізацыі, якія, як напрыклад АБН, могуць быць імі маёрызаванымі й манапалізаванымі для чыста ўкраінскіх мэтаў за кошт іншанацыянальных партнэраў. Калі-ж, аднак, гэтага дасягнуць ім не ўдаецца, тады ад такіх арганізацыяў яны староняцца, уважаючы за больш для сябе адпаведнае й выгаднае ісьці сваім собскім шляхам без спадарожніцтва зь іншымі.

На пацьверджаньне такой тактыкі можна прывесьці сьвежы мюнхэнскі прыклад. Пайменна, у Мюнхэне ад даўжэйшага часу вяліся інтэнсыўныя нарады палітычных прадстаўнікоў нерасейскіх народаў з метаю стварэньня супольнага цэнтру, які мог-бы выступіць перад палітычнымі дзейнікамі Захаду, у тым ліку й перад Амэрыканскім Камітэтам, як паважная палітычная сіла, зь якой апошнія былі-б змушаныя лічыцца ня меней, чымсьці з расейцамі й цэлым КЦАБ-ам. Думка была прыгожая, разумная й зусім на часе. Гэта тым болей, што паколькі расейцы разглядаюць сябе за адну палітычную групу, а ўсіх астальных «нацыяналаў», узятых разам, за групу другую, дык гэтыя «нацыяналы» й павінны былі-б дзеіць супольна, г. зн. супольным фронтам і супольнай арганізацыяй, а не ў раздроб. Адбылася вялікая колькасьць такіх нарадаў і быў апрацаваны праект статуту, які гарантаваў кажнай нацыянальнасьці роўнае й раўнапраўнае партнэрства без абсурдальных і зьняважлівых «парытэтаў», як і выключаў магчымасьць манапалізаваньня гэтай арганізацыі нейкай аднэй нацыянальнасьцяй ужо тым, што старшыня й віцэ-старшыня гэтага цэнтру мелі чаргавацца кажныя тры месяцы ў альфабэтычным парадку паводля назваў краінаў, першы з пачатку, а другі з канца альфабэту. Калі статут «Цэнтру Нацыянальна-Вызвольнага Змаганьня» народаў Беларусі, Каўказу, Казакіі, Туркестану й Украіны (гэтак мелася называцца арганізацыя) меў быць падпісаны на супольным паседжаньні закладчыкаў 25 лістапада 1952 г., дык адзін з галоўных ягоных ініцыятараў, сп. А. Андрыеўскі ад імя УНРады, які перад гэтым налягаў на прысьпяшэньні стварэньня гэтага цэнтру, ня толькі адмовіўся падпісаць статут аканчальна, але навет не згадзіўся падпісаць яго пад умоваў пазьнейшай ратыфікацыі УНРадай, адкладаючы сваю дэцызыю на неазначаны час. З гэтае прычыны прыгожа распачатая й даўно насьпеўшая справа завісла, пакуль што, у паветры. Аб'ектыўна заглядаючыся на ўсё гэта, нельга ўважаць, што такя пазыцыя ўкраінцаў можа быць шкоднай толькі для іншых народаў, але не для ўкраінцаў. Мы схіляемся да думкі, што яна ў ня меншай, калі навет ня ў большай меры, можа самсьціцца на самых украінцах.

### АБН НЯ МОЖА ЗАМЯНІЦЬ ПАЛІТЫЧНАГА ЦЭНТРУ ПАДСАВЕЦКІХ НАРОДАЎ

Акцыя ў кірунку стварэньня міжнацыянальнага цэнтру, аб якім тут мова, выклікае прынцыповыя засьцярогі з боку ўкраінцаў з колаў АБН, якія ўважаюць, што якраз АБН і ёсьць такім цэнтрам, а ў праектаваным новым цэнтры яны бачаць для сябе небясьпечнага канкурэнта. Вось-жа, на нашую думку, гэтак ня ёсьць. Прапанаваны цэнтр зусім ня выключае АБН, а таму й ня мог-бы зь ім канкураваць, з другога боку — АБН, пры ўсіх сваіх стараньнях, ня зможа замяніць міжнацыянальнага цэнтру, пра які пішам у гэтым артыкуле.

АБН, як ведама, задзіночвае ў сабе розныя палітычныя прадстаўніцтвы ня толькі народаў, што сталіся ахвяраю расейска-бальшавіцкае агрэсыі пасьля першай сусьветнай вайны, у справе вызваленьня й прывярненьня дзяржаўнай незалежнасьці каторых, здабытай у 1917-18 г. г., ня толькі не заікнулася дагэтуль афіцыяльная палітыка Захаду, але навет гэты-ж Захад у сваіх дасюлешніх палітычных плянах разглядае іх, як «народы Расеі» ў рамах нутранае расейскае праблемы. Апрача гэтых народаў, да АБН, як ведама, належаць яшчэ Прыбалты, а таксама й палітычныя прадстаўнікі сатэлітных краінаў, за выключэньнем Польшчы, якім ня толькі Захад, але й самі расейцы гарантуюць аўтаматычнае аднаўленьне поўнае сувэрэннасьці й аддзяленьне ад Расеі. Такім чынам палажэньне абедзьвюх гэтых нацыянальных групаў зусім рознае, а разам з гэтым зусім розныя іхныя мэты: народы сатэлітных краінаў і Прыбалты не патрабуюць дамагацца перад Захадам вызнаньня іхных поўных нацыянальных і сувэрэнных правоў, так як само зьнішчэньне сталінскага рэжыму аўтаматычна разьвязвае іхнае нацыянальнае пытаньне. Затое першая група народаў, у тым ліку й мы беларусы, у першую чаргу мусім весьці сваю акцыю ў кірунку вызнаньня Захадам якраз тых правоў, якія ўжо маюць сяньня сатэліты й Прыбалты. Калі-б палітыка Захаду ў дачыненьні да нас асталася такая самая, што й сяньня, дык зьнішчэньне бальшавіцкага рэжыму абазначала-б для нас ня болей і ня меней, як толькі зьмену шыльду на тэй-жа самай расейскай турме народаў, вязьнямі якой мы мелі-б астацца й надалей.

Выходзячы з гэтай спэцыфікі палажэньня падсавецкіх народаў (бяз Прыбалтаў), зьяўляецца справай паза ўсякай дыскусыяй, што народы гэтыя маюць перад сабой зусім іншыя палітычныя мэты, зь якімі Прыбалты або савецкія сатэліты могуць сымпатызаваць і ім спачуваць, але за якія напэўна ня будуць змагацца. За гэтыя ідэалы павінны змагацца самі нашыя народы, і сьведамасьць гэтага заданьня павінна скансалідаваць усе нашыя вызвольныя сілы й скаардынаваць нашую вонкавую палітыку. Існаваньне такой арганізацыі, як АБН, зьяўляецца бясспрэчна карысным і патрэбным хаця-бы дзеля таго, каб разьвіваць і паглыбляць пачуцьцё салідарнасьці ў супольным антыбальшавіцкім змаганьні, як і закладаць трывалы фундамант будучага міждзяржаўнага супрацоўніцтва ўсіх гэтых народаў. Аднак, яшчэ раз паўтараем, арганізацыя такая ў ніякім выпадку ня зможа замяніць міжнацыянальнай арганізацыі самых падсавецкіх народаў і іхных спэцыфічных мэтаў змаганьня паставіць на першым пляне сваей праграмы.

Таму справу стварэньня заплянаванага ўжо супольнага цэнтру падсавецкіх народаў уважаем даўно за насьпеўшую. Мы хочам верыць, што супольны нацыянальны інтэрас народаў, што апынуліся ў складзе Савецкага Саюзу пасьля першай сусьветнай вайны, далёказоркасьць і палітычны розум іхных палітычных кіраўніцтваў перамогуць заіснаваўшыя перашкоды і супольны палітычны цэнтр гэтых народаў, як вярхоўны ворган дзеля каардынаваньня іхнага вызвольнага змаганьня й аднагоднага выступаньня перад Захадам, будзе хутка створаны.

**Язэп Каранеўскі**

# Адзінанедзялімаўскія хвальшыўкі

Калі больш году таму назад правалілася Вісбадэнская канфэрэнцыя й ня прывяла да стварэньня супольнага з расейцамі антыбальшавіцкага цэнтру, некаторыя расейскія эміграцыйныя газэты, у першую чаргу мюнхэнскі ворган СБОНР-у «Голос Народа», пачалі арганізаваць і друкаваць на сваіх балонах рэзалюцыі розных «народаў Расеі» з патрабаваньнямі ад палітычных кіраўніцтваў падсавецкіх народаў пайсьці на супрацоўніцтва з расейцамі на запрапанаванай імі палітычнай базе. Мэта хвабрыкаваньня такіх рэзалюцыяў была ясная: трэба было паказаць амэрыканцам, што толькі палітычная верхавінка ўсіх «народаў Расеі» зьяўляецца пранікнутая «сэпаратыстычнымі» й «самастыйніцкімі» настроямі й тармозіць справу супольнага антыбальшавіцкага фронту, затое масы гэных-жа «народаў Расеі» такіх настрояў зусім не падзяляюць і ўсімі сіламі рвуцца да «адзінай недзялімай матушкі Расеі».

Да такіх рэзалюцыяў, хвабрыкаваных як у Нямеччыне, гэтак і ў іншых краінах расьсяленьня эмігрантаў з падсавецкага Ўсходу. далучаліся, а навет «прыймалі» самастойныя рэзалюцыі й шматлікія «беларусы», падаючы побач з подпісамі пад гэтымі рэзалюцыямі й сваю нацыянальную прыналежнасьць. Але пры гэтым адразу-ж выйшла на верх цікавая рэч: У кажнай заходняй краіне, дзе ёсьць большая ці меншая колькасьць беларусаў, існуюць і дзеяць беларускія нацыянальныя грамадзка-дапамаговыя арганізацыі, урады якіх што год выбіраюцца дэмакратычна выбранымі на мясцох дэлегатамі на агульныя зьезды, маюць сталы кантакт з сваімі сябрамі й вядуць іхны ўлік. І вось спасярод тых «беларусаў», што фігуравалі пад вышэй успомненымі рэзалюцыямі «Голасу Народа», мы, правёўшы дакладную праверку за пасярэдніцтвам успомненых беларускіх грамадзка-дапамаговых арганізацыяў, не знайшлі ніводнага, хто-бы зьяўляўся іхным сябрам.

Паўстае пытаньне, што-ж гэта за своеасаблівая катэгорыя беларусаў, якімі казырue «Голас Народа»? Пасьля далейшае праверкі выясьнілася, што частка зь іх была паводля свайго паходжаньня ўзапраўды беларусамі, але або поўнасьцю зрусыфікаванымі, што ў умовах даўжэйшага пэрыяду паняволеньня Беларусі Расеяй не зьяўляецца нечым дзіўным, або людзьмі зусім цёмнымі й нясьведамымі, якія падпісвалі такія рэзалюцыі, не здаючы сабе справы зь іхнага палітычнага сэнсу. У вадным і другім выпадку голасу гэтых людзей ніхто сур'ёзны, навет ізь лягеру нашых праціўнікаў, ня мог уважаць за голас беларускай публічнай апініі, таксама як нельга ўважаць самога галоўнага рэдактара «Голасу Народа» Аўгена Калюжнага, па паходжаньню беларуса з Гомельшчыны, за прадстаўніка беларускае эміграцыі, так як ён, зь няведамых для нас прычынаў, уважаў для сябе за болей адпаведнае ці выгаднае самавызначыцца, як «истинно русский». Гэта тым больш, што сярод беларускай эміграцыі, як і эміграцыяў іншых падсавецкіх народаў, такія людзі, што пайшлі пад апеку свайго «старэйшага брата», становяць толькі нязначную мяншыню. Але сярод падпісаўшых сбонраўскія рэзалюцыі «беларусаў» была значная колькасьць такіх, чыя беларускасьць была больш чым сумліўная: людзі гэтыя гаварылі тыповай расейскай мовай, навет рознымі цэнтральнымі расейскімі дыялектамі, пабеларуску ня ўмелі ані ў зуб, усюды й заўсёды ўважалі сябе расейцамі, але ў сваіх дакумэнтах, прыдбаных у Нямеччыне, мелі адзначанае ў вадпаведных рубрыках, што яны зьяўляюцца беларусамі й паходзяць зь Беласточчыны, Наваградчыны ці Віленшчыны, хоць там ніколі ня былі. Гэта былі чыстакроўныя расейцы, якія, бароначыся перад прымусовай рэпатрыяцыяй у 1945 годзе, падавалі сваё месца паходжаньня ў Заходняй Беларусі, жыхары якой, як былыя польскія грамадзяне, не падлягалі прымусовай рэпатрыяцыі. Такія зьмены месца паходжаньня рабіліся ў той час масава; рабілі гэта ня толькі самі расейцы, але й памагалі ім пры гэтым з чыста людзкіх гуманітарных матываў і самі-ж беларусы. Прыкладам, нам добра ведама, што беларускія камітэты ў Заходняй Нямеччыне ахвотна йшлі на спатканьне загрожаным расейцам і выстаўлялі ім легітымацыі, выпісваючы ў вадпаведнай рубрыцы, што яны зьяўляюцца беларусамі былой польскай дзяржаўнай прыналежнасьці. Але прайшоў час, небясьпека мінула й гэтыя людзі прыгожа нам адудзячыліся, бессаромна ўзурпуючы сабе правы запраўдных беларусаў і выступаючы ад імя беларускай эміграцыі.

Мы ўсей гэтай гісторыі сяньня не адкапвалі-б, калі-б ня новыя факты арганізаванага выкарыстоўваньня расейцамі ўсіх успомненых катэгорыяў «беларусаў» дзеля расейскіх адзінанедзялімаўскіх інтрыгаў. Пайменна, той-жа «Голос Народа», што здабыў ужо не малую практыку ў арганізаваньні беларускай публічнай апініі, зьмясьціў у нумары 46 за 16 лістапада сёлета «Рэзалюцыю эмігрантаў беларусаў гораду Ляндсгута, прынятую на сабраньні-мітынгу ў дзень 35-ай гадавіны паняволеньня Радзімы бальшавізмам», падпісаную «па даручэньню сабраньня» нейкімі Др. Г. Нікановічам, В. Буртовым і Ж Трыбуне (два апошнія прозьвішчы дык «тыпова беларускія»!). У гэтай рэзалюцыі «эмігранты беларусы гораду Ляндсгута», між іншым, гавораць: **«мы з дарасьцю вітаем стварэньне Каардынацыйнага Цэнтру Антыбальшавіцкай Барацьбы і ў той-жа час выражаем нашае агарчэньне тым, што сярод дзевяці нацыянальных і расейскіх дэмакратычных арганізацыяў, падпісаўшых пагадненьне аб стварэньні**

(Заканчэньне на 5 балоне)

ЯНКА КУПАЛА

# Раськіданае Гняздо

6)

## ДРАМА у 5-ех АКТАХ

### ЗЬЯВА V

ЗОСЬКА адна

ЗОСЬКА. Т-а-к! Пэўне, што гэта няпраўда. Але, што са мной робіцца? Аб чым гэта я думаю? Так ці сяк сон мой залаты павінен разьвеяцца; чары туманныя скончацца, і я, такая як цяпер, скончуся. Заместа мяне будзе другая нейкая мара цягнуць далей лямку свае новае долі. Гарыстым і пясчаным шляхам будзе яе цягнуць, як сібірнік тачку, пакуль аж сама сябе не дацягне туды, адкуль не варочаюцца . . . дзе тата . . . да магілак! Бр! Што я думаю? Як-жа гэта ночка заўсёды нейкай чорнай і страшнай птушкай кладзецца на мае думкі! Зьвядуць гэтыя чорныя птушкі няшчасные жыцьцё маё ў цьму непраглядную! Зь сілы выбіваюся ў змаганьні з гэтым безгранічным сумам, што ўвакруг мяне сьцелецца і жудкімі вачамі глядзіць у мае маркотныя вочы. Ха! Уцяку ізноў адгэтуль і буду блукацца да самага белага дня — дзе ён — дзе яго, свайго ненагляднага каралевіча спаткаю. Буду далей сьніць пры ім дзіўную повесьць свае моладасьці, чараўнічую казку свайго шчасьця, песьню буду пяяць набалелага сэрца і расплаканай душы! Пайду к яму ў вяночку гэтым. (Прымярае). Але! Як у кароне зьяўлюся к яму і зьвешу галаву сваю гаротную на грудзі яго лебядзіныя. (Чуваць шорах). Што гэта? Нехта йдзе! Данілка, гэта ты? Божа! Як страшна! Такі-ж нехта прыбліжаецца! (Прытуліваецца к дзераву).

### ЗЬЯВА VI

ЗОСЬКА — НЕЗНАЁМЫ

НЕЗНАЁМЫ. (Зь вехай у руках). Ня пужайся, сястра мая! Я свой чалавек, хоць і прыходжу ня званы, ня сланы.

ЗОСЬКА. (Перапужаная). Хто ты? . . . Хто вы? . . .

НЕЗНАЁМЫ. Хто я? А ўжо-ж чалавек! А што балей трэба ведаць, калі толькі ня гэта?

ЗОСЬКА. Я тут дна! . . . Нікога нямашака дома. Дык чаго-ж вам трэба? . . . Можа начаваць? Але, як бачыце, у нас няма як . . .

НЕЗНАЁМЫ. Мне нічога ня трэба, сястра мая. Я ня з тых, што толькі прыходзяць, каб што ўзяць, а з тых, што з сабою нешта добрае прыносяць.

ЗОСЬКА. Але, калі я вас баюся, чалавеча! Вы нейкі такі дзіўны!

НЕЗНАЁМЫ. Ня бойся, сястра! Я — ліст адарваны з таго самага дзерава, што і вы, што і многія мільёны падобных. Вецер свабодны прынёс мяне сюды, на вашую руіну. Хацеў-бы з табой і з братам тваім аб важных справах пагаманіць.

ЗОСЬКА. Я-ж вам казала, што нікога няма дома, а я сама нічога ня ведаю.

НЕЗНАЁМЫ. І нічога, сястра, ведаць ня трэба, а што трэба я скажу, а ты гэта брату перадай . . . Слухай, сястра! Склікаецца сход вялікі і ўсе браты і сёстры павінны на гэны сход зьвяцца.

ЗОСЬКА. Хто склікае?

НЕЗНАЁМЫ. Сам па сабе склікаецца. Ніхто ня ведае, ад каго наказ такі выйшаў, а ўсе, дзе толькі кліч дабег, узьдымаюцца і йдуць, як мурашкі йдуць!

ЗОСЬКА. А калі хто ня пойдзе?

НЕЗНАЁМЫ. Хто самахоць ня пойдзе, над тым праклятае зaвісьне, бо на сходзе жыцьцё мільёнаў будзе важыцца, а ў такіх вялікіх справах і адзін чалавек можа сабой сюды ці туды перацяжнуць.

ЗОСЬКА. То і я мушу йсьці на гэны сход?

НЕЗНАЁМЫ. Але, сястра! Толькі старцы і дзеці ад яго звольнены.

ЗОСЬКА. А куды ісьці?

НЕЗНАЁМЫ. Сумленьне і жаданьне сабе і другім шчасьця дарогу табе пакажа! Толькі трэба ісьці, не азірацца, бо хто азірнецца — у слуп сьпячы заменіцца, катората і пяруны пасьля зь мейсца ня зрушаць!

ЗОСЬКА. Та-ак! Я пайду, я мушу куды-небудзь ісьці адгэтуль; тут так страшна, так страшна!

НЕЗНАЁМЫ. Ідзі, сястра, і брата за сабою вядзі, а я тымчасам к другім пайду кліч клікаць.

ЗОСЬКА. Я скажу Сымону. Толькі, мусіць, суд наш пакуль не адбудзецца, ён ня пойдзе на ніякі сход, пэўне, што ня пойдзе.

НЕЗНАЁМЫ. Але пасьля суду хай прыходзе! Дый яшчэ буду ў вас. (Выходзе).

### ЗЬЯВА VII

ЗОСЬКА адна

ЗОСЬКА. (Садзіцца на зямлі). Які нязвычайны чалавек! Казаў — яшчэ будзе ў нас. Але хаця-б толькі ня ўночы! А то так яго слухаць страшна, хоць за адно і хочацца слухаць. Штосьці нявысказанае цягне і к яму і на гэны сход няўбывалы . . . Нязвычайны чалавек! Ня знай, ня ведай — сястрой мяне называў! Чаму ён мяне так называў? Ха! Тэй ўцякаць адгэтуль, а то яшчэ хто другі такі прыйдзе і жудасьці ўсялякае з сабою нанясе. Пайду! Пайду к яму, к свайму месяцу сьвятлянаму, абаўюся каля яго, як хмель каля дубочка, і забудуся хоць на час на свае думкі трывожныя, на самую сябе бясправнную. Як ручэйку кужалю — распушчу касу сваю дзявоцкую па плячох сваіх белых . . . ён любіць мяне такую! (Распускае касу). А цяпер палажу на галаву вяночак з васількоў, бо ён казаў, што мае вочы, як васількі, дык няхай-жа васількі на валасох маіх красуюцца! (Кладзе на галаву вянок). Цяпер, як раз, буду русалка. Бо такі-ж русалкай ён мяне сваёй завець, ды пэўне я калісь і буду ёю. Бо люблю гэта царства русалчыне! Там яны сабе, то, як рыбкі, у вадзіцы плюскаюцца, то ў лес выходзяць і на галінках калышуцца, як тыя кветкі — званочкі ўлетку на сенажаці. Шчасьлівыя яны, гэтыя русалачкі, шчасьця нашага дзявочага насьледнічкі! Шчасьлівыя і спакойныя! А ты мучся, дзяўчына, ня ведаючы, як і што з сабою чыніць! Але пара йсьці ўжо! Ён, залацэнькі, даўно пэўна чакае мяне. Так! Даўно месячык свае зоркі чакае, а яна ўсё толькі здалёк яму ўсьмяхаецца. (Устае і памалу з распушчанымі валасамі ідзе, пасьля зьдзіўленая адступае назад да сярэдзіны сцэны). Ён сам ідзе ка мне, ён сам! Ах якое шчасьце! (Уходзе панічь, Зоська часіну любуецца ім, а пасьля віcьне ў яго на шыі).

(Заслона)

### АКТ ЧАЦЬВЕРТЫ

**Час** — позная восень. З саду апала лісьце. Сьцюдзена.

### ЗЬЯВА I

МАРЫЛЯ — АЛЕНКА — ЮРКА

МАРЫЛЯ. (Уходзе з Аленкай і Юркам, сама нясе гальлё, а Аленка зь Юркам — бульбу ў прыполіках). Ціха, дзеткі, ціха! Зараз абагрэемся і павячэраем. (Кідае гальлё).

# Адзінанедзялімаўскія хвальшыўкі

(Заканчэньне)

**К. Ц., адсутнічаюць беларускія арганізацыі».**

Але на гэтым не канец. «Сабраньне-мітынг эмігрантаў беларусаў гораду Ляндсгуту» ў тэй-жа рэзалюцыі дамагаецца:

**«Каб выясьніць прычыны, змусіўшыя нашых суродзічаў адхіліцца ад удзелу ў Каардынацыйным Цэнтры і вынесьці адпаведную з гэтае нагоды пастанову, а так-жа знайсьці шляхі да супрацоўніцтва з нацыянальнымі й расейскімі арганізацыямі, уваходзячымі цяпер у К. Ц., лічым неабходным:**

**1. Не пазьней канца бягучага году правесьці на тэрыторыі Заходняй Нямеччыны канфэрэнцыі беларусаў;**

**2. Запрасіць прыняць удзел у працы канфэрэнцыі ўсіх беларусаў і прадстаўнікоў дэмакратычных беларускіх арганізацыяў.**

**3. Патрабаваць прыбыць на канфэрэнцыю:**

**а) доктара Б. Рагулю — прадстаўніка Беларускай Народнай Рады, удзельніка нарады ў Вісбадэне;**

**б) сп. Жытку — прадстаўніка Беларускага Антыбальшавіцкага Фронту, удзельніка нарады ў Штарнбэргу — дзеля выясьненьня прычынаў ня прыняцьця ўдзелу ў працы Каардынацыйнага Цэнтру.**

**4. Запрасіць на канфэрэнцыю прадстаўнікоў Каардынацыйнага Цэнтру й прадстаўнікоў арганізацыяў, уваходзячых у ягоны склад.**

**5. Даручыць ініцыятыўнай групе ў складзе Нікановіча Г., Брутава В. і Трыбуне Ж. па магчымасьці зьвязацца з усімі беларусамі, пражываючымі ў Заходняй Нямеччыне, і разважыць пытаньне стварэньня арганізацыйнага бюра, якое занялося-б падгатаваньнем і правядзеньнем канфэрэнцыі».**

Як бачым, тут ужо «беларусы» Др. Г. Нікановіч, В. Буртоў і Ж. Трыбуне ня толькі патрабуюць уваходу беларусаў у КЦАБ, але дамагаюцца «даручыць» ім «зьвязацца з усімі беларусамі, пражываючымі ў Заходняй Нямеччыне (у іншых краінах, відаць, знойдуцца для гэтага іншыя «беларусы») і абсудзіць пытаньне стварэньня арганізацыйнага бюра, якое занялося-б падгатоўкай і правядзеньнем канфэрэнцыі», якая-б «знайшла шляхі супрацоўніцтва з нацыянальнымі й расейскімі арганізацыямі, уваходзячымі цяпер у К. Ц.». Значыцца, калі ня хочаць беларускія арганізацыі лезьці ў КЦАБ, дык «беларусы» др. Г. Нікановіч, В. Буртоў і Ж. Трыбуне пры падтрыманьні СБОНР-у правядуць адпаведную акцыю зь нізоў, сярод «народу» і створаць аўтарытэтнае прадстаўніцтва «беларускіх нацыяналаў», якое ўвойдзе ў КЦАБ і зойме пустое для беларусаў месца. Хітра прыдумана!

Прачытаўшы гэтую рэзалюцыю, мы зьвярнуліся да Беларускага Нацыянальнага Камітэту, вызнаванага раней іраўскімі ўладамі й сяньня вызнанага ўладамі нямецкімі за афіцыяльнае прадстаўніцтва беларускай эміграцыі ў Нямеччыне, і папрасілі паказаць нам сьпіскі зарэгістраваных у ім беларусаў з гораду Ляндсгуту. У сьпісках запраўды знайшлі мы групу беларусаў з гэтага гораду, але др. Г. Нікановіча, В. Буртова й Ж. Трыбуне ніяк не дашукаліся.

Тымчасам нядаўна атрымалі мы ад беларусаў зь Ляндсгуту ніжэй зьмешчанае пісьмо, падпісанае трымя беларусамі, якія ўзапраўды фігуравалі ў сьпісках Беларускага Нацыянальнага Камітэту. Вось гэтае пісьмо:

**„У Рэдацыю газэты «Бацькаўшчына»**
**В. Паважаны Сп. Рэдактар!**

**Прашу не адмовіць у маей просьбе зьмясьціць у Вашай паважанай газэце далучаную капію ліста ў Рэдакцыю «Голос Народа».**

**З пашанай да Вас**
**Ст. Рабека**

**2. 12. 1952 г.**

**Копія**

**Ліст у Рэдакцыю «Голос Народа»**
**Паважаны Рэдактар!**

**Просім не адмовіць у нашай просьбе памясьціць у Вашай паважанай газэце наступнае выясьненьне: У нумары 46 (96) «Голасу Народа» за 16 лістапада 1952 году паявілася рэзалюцыя, якая нібы мела быць вынесенай групай беларусаў, пражываючых у горадзе Ляндсгут. Дзякуючы таму, што рэзалюцыя гэтая ўносіць у нашае грмадзтва некаторыя няяснасьці, выясьняем:**

**1. Няпраўдай ёсьць, што ўспомненая рэзалюцыя зьяўляецца творам беларусаў, пражываючых у горадзе Ляндсгут.**

**2. Затое праўдай ёсьць, што гэтая рэзалюцыя зьяўляецца творам сп. Асадчага, які прыехаў з Шляйсгайму і прывёз з сабою ўжо гатовую рэзалюцыю, якую, інфармуючы хвальшыва сабраных 5 чалавек, нагаварваў падпісаць.**

**3. Усе беларусы, пражываючыя ў горадзе Ляндсгут, якія лічаць сябе беларусамі й ёсьць зарэгістраванымі ў Беларускім Нацыянальным Камітэце пад адрасам Мюнхэн 22, Гэрцог-Рудольф-штр. 49/III, нічога супольнага ня маюць із зьмешчанай у Вашай газэце рэзалюцыяй і нікому не давалі ўпаўнаважаньня яе падпісваць.**

**З запраўднай пашанай да Вас.**
**Ад групы беларусаў, пражываючых у гор. Ляндсгут: Ст. Рабэка, А. Літвінка й Н. Раеўскі.**

**2. 12. 1952".**

Заінтрыгаваныя ўсей гэтай несамавітай, але тыповай для «Голасу Народу», гісторыяй, мы пастанавілі праверыць яе да канца, тым болей, што, як мы пісалі на пачатку, такія спосабы праводжаньня «дэмакратычнага волявыяўленьня эміграцыйных масаў» для «Голасу Народу» зьяўляецца ня першы раз тарнаванай практыкай. Дзеля гэтага прадстаўнік Беларускага Нацыянальнага Камітэту гэтымі днямі быў паехаў у Ляндсгут і на месцы ўстанавіў, што ўсе факты, пададзеныя ў вышэй зьмешчанай копіі пісьма да рэдакцыі «Голасу Народа», які яго дагэтуль це надрукаваў, адказваюць праўдзе ўключна з тым, што на «сабраньні-мітынгу беларусаў гораду Ляндсгута» прысутнічала толькі пяць чалавек вельмі сумліўнай беларускасьці, якія самі за беларусаў сябе не ўважаюць і не зьяўляюцца зарэгістраванымі ў Беларускім Нацыянальным Камітэце.

Што выпадак у Ляндсгуце не зьяўляецца адзіным, але распачынае сабою шырэйшую акцыю ў галіне «волявыяўленьня беларускай эміграцыі», запляханую й арганізаваную расейскімі адзінанедзялімаўцамі, паказвае такое-ж самае «собрание белоруссов» у лягеры ў Шляйсгайме пад Мюнхэнам, рэзалюцыя якога была надрукаваная ў тым-жа «Голосе Народа» за 7 сьнежаня сёлета. Падпісаныя пад рэзалюцыяй «беларусы». А. Лотухін, П. Асадчы й П. Партлезнік (відаць, друкарская памылка, павінна быць Падлазьнік), прывітаўшы «пачынаньне беларусаў гораду Ляндсгут», дамагаюцца: **«Для ўзмацненьня агульнага антыкамуністычнага фронту змаганьня лічым неабходным стварэньне беларускай дэмакратычнай арганізацыі на прынцыпах непрадрашэнства, якая ў сваю чаргу ўвайшла-б у супрацоўніцтва з нацыянальнымі й палітычнымі арганізацыямі, якія сыньня ўваходзяць у Каардынацыйны Цэнтр.**

**Для ажыцьцяўленьня гэтага заданьня пастанаўляем:**

**1. Канфэрэнцыю беларусаў правесьці ў канцы сьнежаня 1952 году;**

**2. У дапамогу ініцыятыўнай групе беларусаў гораду Ляндсгуту паслаць трох прадстаўнікоў ад беларусаў лягеру Шляйсгайм, якім даручыць у найбліжэйшым часе ўвайсьці ў кантакт зь ініцыятыўнай групай для шыбчэйшага ажыцьцяўленьня скліканьня канфэрэнцыі».**

Тут дык шыла ўжо поўнасьцю вылезла зь мяшка. Як ведама, у лягеры ў Шляйсгайме знаходзілася найбольшая ў Нямеччыне зарганізаваная беларуская нацыянальная група й зарэгістраваная ў Беларускім Нацыянальным Камітэце, якая, у пачатку бягучага месяца, хіба-ж перад «собранием белоруссов» у гэтым лягеры, была арганізавана перавезеная ў Аўгзбург, і ня толькі ня прысутнічала на гэтым «собрании», але й нічога аб ім ня ведала. Відаць, гэтае «собрание» й складалася толькі з падпісаўшых ягоную рэзалюцыю, г. зн. з А. Лотухіна, П. Асадчага й Н. Падлазьніка. А што гэта за беларусы, коратка выясьняем: першы зь іх, А. Лотухін, былы фатограф IPO й жыхар ДП лягеру ў Розэнгайме, у якім тады знаходзілася найбольшая беларуская нацыянальная група ў Нямеччыне і ў якім канцэнтравалася ўсё беларускае нацыянальна-арганізацыйнае жыцьцё. I ніхто тады з Розэнгаймаўскіх беларусаў, ня раз навет фатаграфуючыся ў Лотухіна, навет і не падазраваў, што ён зьяўляецца беларусам. Два-ж апошнія зьяўляюцца біялягічна ўзапраўды беларусамі, але належаць да тэй нялічнай катэгорыі нашых суродзічаў, якія заяўляюць: «Да, мы тоже белоруссы, но в случае борьбы белоруссов с русскими, мы по стороне последних».

Усё гэта раскрывае нясумленныя хвальшыўкі «Голасу Народа» й ягоных спадручных тыпу розных Асадчых, якія, самі ня маючы нічога супольнага зь беларускім нацыянальна-вызвольным рухам, разьяжджаюць з прыгатаванымі наперад рэзалюцыямі па лягерах Нямеччыны й намаўляюць падобных сабе «беларусаў» да выступаньня ад імені беларускай эміграцыі.

**Алесь Крыга**

# Ішлі нявольнікі... вызваляць

**(УРЫЎКІ З УСПАМІНАЎ)**

**(Заканчэньне, глядзі № 47-48 і 50)**

Нарэшце, закончыўся «трыумфальны паход», які абыйшоўся гэтак танна для бальшавікоў. Мы апынуліся ў вадным маёнтку пад Лідай на адпачынку. Нешта з тыдзень нашую цікаўнасьць прыцягвала Ліда, ня так места, як ягоныя крамы. Але крамы хутка апусьцелі й места адразу зрабілася не такім шумным, ягонымі вуліцамі езьдзіла менш аутаў, ад якіх яшчэ колькі дзён таму аж раілася.

Цяпер войска, як такое, адыйшло на задні плян. Усё чыста заступіла прапаганда сярод жыхарства Заходняй Беларусі. Камісары й палітрукі разам з падкінутымі ім на падмогу цывільнымі агітатарамі (ведама, з партбілетам) апанавалі да апошняй шчыліны заняты абшар. Пачалася паласа няспынных мітынгаў і сходаў, на якіх казённыя прамоўцы расьпісвалі «цуды» бальшавіцкага «раю», беспардонна спэкулюючы й нацыянальнай справай.

Але прапаганда адно, а штодзённае жыцьцё другое. Зь ім ня лёгка ўправіцца, яно бывае гэткім упартым, што навет не заўсёды паддаецца й бальшавіцкаму прапагандаваму ўпакаваньню, асабліва калі мець на ўвазе, што ня кажнага чалавека лёгка захапіць ідэяй, поўнае ўжыцьцяўленьне якой мае наступіць няведама калі. Бальшыня людзей на гэтым сьвеце мае звычай, апрача захапленьня прыгожай ідэяй, дакрануцца да таго, што ўжо зрэалізавана, хоць краем вока зірнуць на зробленае, асабліва, калі яно прывознае, ня з гэтых краёў.

I вось, каб усьцерагчыся ад іншай, адвольнай «прапаганды», якая не прадугледжана ніякімі інструкцыямі, быў аддадзены няпісаны загад, паводля якога забаранялася жаўнерам уваходзіць у лучнасьць зь мясцовым жыхарствам. Гэты недавер да чырвонаармейцаў быў выражэньнем агульнага недаверу да людзей у савецкай імпэрыі. Недавер і высочваньне неадступныя спадарожнікі падсавецкага чалавека, дзе-б ён ня быў, што-б ён ні рабіў, няхай хоць дваццаць разоў ён узнагароджаны ды расьпісаны. Там навет кат сочыць за катам. Пра недавер і асоку за народам там кажны ведае, хоць афіцыйна заўсёды крывадушна гаворыцца адно пра «бязьмежную адданасьць партыі і ўраду».

Жаўнерам было забаронена гаварыць ужо не на такія «высокія» тэмы, як нацыянальная палітыка, а пра звычайныя рэчы — пра калгасы, пра цэны, наагул пра жыцьцё ў БССР з тае прычыны, што нібы на тэрыторыі, дзе яшчэ ўчора панавалі капіталістыя й абшарнікі, засталося шмат шпіёнаў і дывэрсантаў, якія праз цывільныя, на першы пагляд нявінныя размовы могуць даведацца пра розныя дзяржаўныя тайніцы, выдача якіх сувора караецца. Кажны добра разумеў, што за гэтымі высокімі словамі «дзяржаўная тайніца» крыецца будзённая рэч — штодзённае жыцьцё калгасьнікаў і работнікаў. I вось пра штодзённае жыцьцё забаранілі гаварыць, каб людзі, якіх ўчора дзяліла граніца ад савецкага сьвету, не даведаліся ад сваіх шэрых «вызвольнікаў», што й «вызвольнікі» зьяўляюцца абрабаванымі нявольнікамі, што гэткі лёс ня міне й «вызваленых».

Магло здарыцца, што калгасьнік з пад самага сталічнага Менску з прычыны свае «нясьведамасьці» мог выпаліць такое, што пасьля й дваццаць праінструктаваных прапагандыстых не дапамогуць. А мог сказаць гэтак, між іншага, хоцьбы тое, што вось ён, калгасьнік з заможнага калгасу, ці хто іншы зь ягонай сям'і хоць раз на два тыдні, але мусіў выкруціцца-адпрасіцца ў свайго начальства ў места (няхай і страціць «важкі» працадзень) у такой дробнай справе — прадаць дзесятак яек, якія ён, маючы малых дзяцей, умудраецца сабраць ад дзьвюх-трох курэй (не абы хто, а сам урад дазволіў трымаць!), або прадаць літар-другі малака, каб купіць колькі кілё хлеба. Як-жа тады можна будзе пагадзіць вось гэткае «нясьведамае» апавяданьне хоць-бы з савецкімі газэтамі, якія аж захлынаюцца ад крыку пра «заможнае» калгаснае жыцьцё? А тут на табе, заможны калгасьнік, які «дабраахвотна» прадаў раней сваё збожжа дзяржаве за бесцань, цяпер купляе ў месьце хлеб па дарагой цане, каб хоць крыху падсілкаваць сваю нішчымную страву.

Таму камісар і гаварыў пра дзяржаўную тайніцу, таму й папярэджваў нядвузначна.

Але калі, скажам, матарыяльнае шчасьце савецкага вырабу яшчэ да часу льга было прыкрыць заслонай ад цікаўнага вока, дык нельга было апусьціць заслоны на тое, што падсавецкія «шчасьліўцы» на ўласныя вочы ўбачылі навет на гэтай запушчанай, запрыгоненай ускраіне, дзе значная частка людзей матарыяльна мелася лепш, як там, на «фарпосьце сацыялістычнай бацькаўшчыны» — у БССР.

Выйсьце нейкае трэ' было знайсьці, бо-ж праз увесь час у саветах з гэткай ледзь не да сьлёз «спачувальнасьцяй»

**(Заканчэньне на 6 балоне)**

А бульбачку сюды сыпце! (Дзеці высыпаюць). Кажаце — холадна? Ну, дык зараз агоньчык вам распалю! (Распаляе). Цяпер садзецеся, дзеткі, і грэйцеся, а бульбінкі на агоньчык, на жарок кідайце, каб скарэй пякліся! Ня бойцеся, яшчэ не замерзьнеце і з голаду не памрыцё, пакуль я тут жыву! Але пакуль што ня так вельмі холадна. Во, як прыдзе канец восені, ды зіма зь сьнегам загуляе, тады — рэч іншая! Ну і тады нічога, дзеткі, нічога! Мінае лета, міне восень, зіма, а там і вясна прыдзе. Цёпленька будзе, сонейка будзе грэць, траўка зелянець, птушачкі пяяць, садочкі цьвісьці... А цяпер грэйцеся, дзеткі, грэйцеся! Каб толькі Сымон наш скарэй з суду вярнуўся.

### ЗЬЯВА II

ТЫЯ-Ж і ДАНІЛКА

ДАНІЛКА. (Падходзячы к агню). А! Як добра, мамка разлажылі агоньчык і бульбачку пячыцё, бо мне, праўду кажучы, дрыжыкі па целе так і скачуць, не раўнуючы, як смык па йскрыпцы, а тут (паказвае на жывот) кішка зь кішкой у такія між сабой кулачкі йдуць, што хоць ты вурадніка кліч разбаронівать іх! (Садзіцца і грэецца). А-та-та! Як цёпленька! Страшэнна ня люблю сьцюжы! Так здаецца, на гэты час закапаўся-бы дзе ў бярлог, як мядзьведзь, і праспаў-бы да самае вясны, бяда толькі, што на скуры мядзьвежая шэрсьць ня вырасла!... Мамка, чаму я не мядзьведзь?

МАРЫЛЯ. Бо ты дурненькая варона! Сам ня ведаеш, што чаўпеш.

ДАНІЛКА. Э-э! Каб я быў хоць варонай!... Ужо-б даўно із сваёй іскрыпачкай паляцеў адгэтуль кудыколечы ў цяплейшую хату. Але што з пустога ў парожняе пераліваць! Мо' я трохі і мядзьведзь і варона, але ўсё роўна толькі — Данілка: на лева ці на сакала трудна пры цяперашніх варунках выкіравацца. Скончу іскрыпачку — ужо ня многа асталося каля яе работы, і пачну сабе іграць. Каму вясельле, каму — хрэсьбіны, а каму... Бяда толькі, што ня можна іграць на хаўтурох, а то такога «Лазара» завёў-бы, што хоць у прысядкі ідзі!

МАРЫЛЯ. Ну, і дагаварыўся! Ці-ж пад «Лазара» ідуць у прысядкі?

ДАНІЛКА. А чаму-ж не пайсьці? Я сам першы пусьціўся-бы. Мне, калі музыка зайграе, дык і ў сярэдзіне ўсё йграе, а ногі так і чэшуцца да падскаківаньня.

МАРЫЛЯ. У цябе ўсё нялюдзкае. Толькі-б і скакаў там, дзе іншыя плачуць.

ДАНІЛКА. Э! Бо скакаць ня ўмеюць, дык і плачуць; як мокрыя вароны сноўдаюцца, або як блёкату аб'еўшыся... Ну хоць-бы так, як наша Зоська.

МАРЫЛЯ. А што Зоська? Дзе ты яе бачыў?

ДАНІЛКА. Дзе бачыў? Я з двара ішоў, а яна ў той бок цягнулася, распусьціўшы валасы, як русалка якая.

МАРЫЛЯ. Няшчасная дзяўчына! Дарэшты губіць яна сама сябе гэтай гульнёй непатрэбнай. Не кажы хаця аб гэтым Сымону.

ДАНІЛКА. Камэдыя — хто ня ведае, а хто і ведае, дык усё роўна — камэдыя. Чаго гэта Зося хоча ад іх? Там зусім добрыя людзі жывуць. Вось хоць-бы я... Пайшоў сягоньня к ім у пазыкі: прашу каб далі жылаў, ці кішак на струны і хваста на смык. Ну, яны мне так усё гэта і пазычылі, але толькі на струны дроту далі, бо кажуць, што ў іх кішкі й жылы ўсе выйшлі і няма ў запасе. Не кажэце толькі, мамка, Сымону, што я ў гэтыя пазыкі хадзіў туды, а то яшчэ з хаты вон выгане.

### ЗЬЯВА III

ТЫЯ-Ж і СЫМОН

СЫМОН. (Уходзе і садзіцца. Панура). Ці няма чаго зьесьці?

МАРЫЛЯ. Зараз бульба сьпячэцца. Ну што? Як?...

СЫМОН.. Усё прапала: мы прайгралі! Не даказалі сьветкі, свае людзі не даказалі нашае даўнасьці на гэтую зямлю. Усе сьветкі празь некага былі падкуплены і споены. Дваццаць чалавек прысягнула крыва і суд ня мог уважаць нашага прашэньня: пацьвярдзілі першы прыгавор і прысудзілі выносіцца адгэтуль. Канчальную пастанову выдалі... далей няма куды падаваць.

МАРЫЛЯ. Ну і што-ж мы цяпер будзем рабіць? Якую ты цяпер у восень раду знойдзеш?

СЫМОН. Якую раду? Якую раду? Ужо-ж, як і ня раз гэта казаў, не злажу сваіх рук, як да малітвы, і не пайду к ім прасіцца ў закутнікі! Будку якую да часу ськідаю і будзем сядзець тут да вясны, а да вясны шмат чаго можа пераменіцца на сьвеце.

МАРЫЛЯ. Проці закону хочаш ісьці — большай бяды сабе наклікаць?

СЫМОН. Ня проці закону, а проці нашых згубіцеляў — крывапрысяжных сьветак і проці тых, што гэтак сьветак падкупілі іх-жа крывавымі медзякамі. Вось проці такіх хачу ісьці!

ДАНІЛКА. І-і! Адзін дурань грошы бярэ, а другі дурань дае на тое гандаль.

СЫМОН. (Із злосьцю). А ты — трэці дурань — ідзі гутарку вясьці із сваёй іскрыпачкай, а ня тут! (Данілка адходзе ў старану).

МАРЫЛЯ. Што ты адзін зробіш проці ўсіх? Ня йдуць, мой сынок, рэчкі ў гару і ня круціцца крыльле ў вятраку проці ветру. Не такой дарогай ішоў ты і хочаш да яе ісьці, ох, не такой! З самага пачатку я прачувала, што нічога з гэтага твайго ўпорства ня выйдзе, і што-ж? Ці не мая праўда? А трэ' было пакарыцца! Давалі хату, службу давалі, добра можна было прыстроіцца, хоць-бы гэтыя малыя мелі які-такі прыпынак — цёплы начлег і лыжку гарачае стравы. Ты гэтага не захацеў — усё суду нейкага чакаў. Вось табе і суд!... Хочаш будку нейкую паставіць?... Ну, паставіш, і што з таго? Так сама раськівдаюць і вывядуць сьцюжаю ў чыстае поле на пацеху ваўком галодным.

СЫМОН. Хай раськідаюць, хай выводзяць! Ізноў вярнуся, ізноў тут сяду і буду вясны чакаць.

МАРЫЛЯ. Пакуль так дачакаеш вясны, — мароз табе і нам усім зубы выесьць, у ледзякі аберне.

СЫМОН. Дык і што-ж там такое? Абернемся ў слупы замарожаныя, у камяні няскрытныя абернемся, а сэрцы тады нашы з сэрцам зямлі зрастуцца, і ніхто не паважыцца крануць нас, бо той, хто кране — сам у крыгу лёду абернецца, і ніякае сонца не растопе ўжо гэтае крыгі!

МАРЫЛЯ. Ты, сягоньня, як ня пры сваім розуме, Сымоне! Як у гаручцы брэдню нейкую страшную вядзеш. Паслухай ляпей, дзеткі, мяне, я-ж цябе гадавала, — пакарыся ты ім, — яшчэ ня позна!

СЫМОН. Ха-ха-ха! Пакарыся! А ці ведаеш, мамка, што гэта знача ім пакарыцца? Ці хоць дагадваешся? Гэта, мамачка, знача: прадаць, утапіць сябе, цябе, нас усіх у няволю ім на векі вечныя — запрапасьціцца ў вечнае рабства, з каторага выхаду ніколі ня знойдзем ні мы, ні тыя, што пасьля нас гэта рабства ў спадчыне атрымаюць. Ці ведаеш, мамка, гэта?

МАРЫЛЯ. Нічога я, дзеткі, ня ведаю, але як праз сон дагадваюся, чаго ты хочаш. На сваю і нашу нядолячку такі ты ўдаўся. Не здарма з гэтага людзі старыя нічога

# СУМНАЯ ГАДАВІНА

**(ДА ДЗЕСЯТАЙ ГАДАВІНЫ АРЫШТУ Й РАССТРЭЛУ КСЯНДЗА ВІНЦЭНТАГА ГАДЛЕЎСКАГА)**

У ночы з 23 на 24 сьнежаня 1942 году быў арыштаваны ў Менску Генеральны Школьны Інспэктар Беларусі ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі. Хутка пасьля гэтага сталася ведамым, што ён быў расстрэленым у падвалах менскага СД (гэстапо).

Вестка аб арышце кс. В. Гадлеўскага да глыбіні ўзварушыла й абурыла беларускае грамадзтва. Арышт гэты аднак быў і трыумфам тэй беларускай клікі, якая, згуртаваўшыся вакол др. І. Ермачэнкі, назначанага немцамі старшынёю Беларускае Народнае Самапомачы, ад самага пачатку вяла зацятае змаганьне з усімі, хто быў супраць нямецкай экстэрмінацыйнай палітыкі на Беларусі.

Прыезд кс. Гадлеўскага ў 1941 годзе ў Менск і абняцьце становішча Галоўнага Школьнага Інспэктара шчыра ўзрадавалі й абнадзеілі беларускае грамадзтва. Кс. В. Гадлеўскі, шырака ведамы й агульна шанаваны рэлігійны й нацыянальны дзеяч, цешыўся вялікім аўтарытэтам, а гэта — дзякуючы сваей няўтомнай працы й непахіснасьці ў змаганьні за беларускія нацыянальныя ідэялы.

Нябошчык палажыў вялізарныя заслугі ў арганізацыі беларускага школьніцтва за часоў нямецкае акупацыі. Дзякуючы свайму становішчу, ён меў беспасярэдні кантакт зь беларускай школьнай моладзьдзю й настаўнікамі, што было патрэбным для зарганізаваньня беларускага руху супраціву. Такія сеткі супраціву ўзрасталі й множыліся.

У вапошнія месяцы свайго жыцьця ксёндз Гадлеўскі зусім адсунуўся ад афіцыяльнага грамадзкага жыцьця ў Менску, канчаткова пераканаўшыся што афіцыяльная грамадзкая й культурная беларуская дзейнасьць навет у тых вузкіх рамках, у якіх была яна талераваная яшчэ немцамі, зьяўляецца ня толькі зусім недастатковай для нашых нацыянальных патрэбаў, але што навет немагчыма яе, як сьлед, выкарыстоўваць у якасьці легальных формаў для законсьпіраванае нацыянальнае працы. Ён поўнасьцю аддаецца тады тайнай дзейнасьці сярод беларускіх патрыётаў, раскрываючы перад імі злачынныя антынародныя мэты гітлераўскага акупанта й пераконваючы аб неабходнасьці быць стойкімі й непахіснымі ў змаганьні. Ён у прыватных гутарках і нарадах зь беларусамі стараўся ўзмацняць іхны патрыятызм і пераконваць аб неабходнасьці самаабароны перад нямецкім вынішчэньнем. Гэтая ягоная нацыянальна-патрыятычная дзейнасьць гарманічна вязалася зь дзейнасьцю рэлігійнай. Ксёндз Гадлеўскі, бязь ніякага назначэньня з гары, бо немцы не дазволілі тады стварыць беларускай каталіцкай герархіі, стаўшыся фактычным пробашчам каталіцкай катэдры на Пляцы Волі ў Менску, глыбока рэлігійнымі й патрыятычнымі казаньнямі разьвіваў у сваіх вернікаў глыбокія маральныя вартасьці й адначасна будзіў нацыянальныя пачуцьці, гартаваў сілы вытрываласьці. Гэтыя казаньні кс. Гадлеўскага мелі вялікі й ажыўляючы ўплыў на беларускае грамадзянства Менску, дык і ня дзіва, што сярод ягоных слухачоў былі ня толькі беларусы каталікі, але ў роўнай меры й праваслаўныя.

За ўсей гэтай ціхай і навонкі выключна рэлігійнай дзейнасьцю кс. Гадлеўскага зоркім вокам сачыла нямецкае гэстапо ў Менску. У помач, аднак, немцам прыйшлі беларускія вырадкі, якія й спрычыніліся да арышту й расстрэлу кс. Гадлеўскага.

Кіраўніцтва Беларускай Народнай Самапомачы на чале зь Ермачэнкам і Іванам Касяком было на поўнай і вернай службе нямецкага гэстапо. Таму і ўся дзейнасьць кс. Гадлеўскага была ім сольлю ў воку. Шукалася толькі адпаведнай нагоды, каб напісаць аб гэтым адпаведны данос. І кс. Гадлеўскі інтуіцыйна гэта прачуваў.

Памятаю, восеньню 1942 году я прывёз ксяндзу Гадлеўскаму матарыялы з былага польскага архіву аб судовым працэсе, у якім, як галоўны абвінавачаны, выступаў кс. Гадлеўскі і быў засуджаны на два гады астрогу (справа ўтрыманьня беларускай мовы ў каталіцкім касьцеле ў Жодзішках, дзе кс. Гадлеўскі быў тады пробашчам). Частка польскага архіву была ў 1939 годзе вывезеная бальшавікамі ў Вялейку. Пераглядаючы архіў, а натраліў на багаты матарыял у справе перасьледваньня палякамі беларусаў наагул, а кс. Гадлеўскага ў васабліваcьці. Прыехаўшы ў Менск, забягаю да кс. Гадлеўскага, зь якім лучылі мяне блізкія й шчырыя дачыненьні. Пасьля даўжэўшай гутаркі, перадаў яму прывезены матарыял. Кс. Гадлеўскі з зацікаўленьнем разгледзеў усё, расказаў мне шырэй аб сваім судовым працэсе й змаганьні за беларускую мову ў касьцёлах Заходняй Беларусі, матарыялаў аднак прыняць не хацеў. «Завязі — сказаў — лепш кс. Адаму ў Вільні, ён піша цяпер працу аб палажэньні беларусаў пад Польшчай пасьля першай сусьветнай вайны. Ты ведаеш, я тут няпэўны. Чалавек ня ведае ні дня ні гадзіны...» Гаварыў гэта з сумам.



**КСЁНДЗ ГАДЛЕЎСКІ Ў ТАВАРЫСТВЕ СВАІХ ДУХОЎНЫХ СУПРАЦОЎНІКАЎ**

**Сядзяць зь лева на права: Кс. Адам Станкевіч, шырака ведамы беларускі палітычны, навуковы й культурны дзеяч, які, на падставе няспраўджаных вестак, быў расстрэлены бальшавікамі ў Вільні ў 1945 годзе, ксёндз Я. Гэрмановіч, беларускі сялянскі пісьменьнік і паэта, што пісаў пад псэўдонімам Вінцук Адважны і кс. В. Гадлеўскі; стаяць зь лева на права: кс. Левош і кс. Станіслаў Глякоўскі, які быў таксама арыштаваны менскім гэстапо й высланы ў канцэнтрацыйны лягер у Нямеччыну.**

На пачатку сьнежаня 1942 году адбываўся ў Менску курс раённых кіраўнікоў Беларускай Народнай Самапомачы. Ад Жодзіскага раёну быў высланы на курс Ізыдар Шусьціцкі, былы парахвіянін кс. Гадлеўскага. Бязумоўна, прыехаўшы ў Менск, Шусьціцкі адведаў кс. Гадлеўскага. У гутарцы з Шусьціцкім кс. Гадлеўскі ня скрываў свайго варожага становішча да нямецкай палітыкі і даў Шусьціцкаму да зразуменьня, што працу ў бюры трэба будзе хутка замяніць на іншую, а замест алаўка трэба будзе хутка ўзяць вінтоўку й змагацца з акупантам. Неасьцярожная гутарка з Шусьціцкім мела пазьней фатальныя вынікі. Шусьціцкі, шчыры й адданы беларус, аднаго дня ня вытрываў і сказаў публічна аб усім, што накіпела ў сэрцы. Аднаго дня лекцыю на курсах меў Юльян Саковіч, цесна зьвязаны з Касяком і Ермачанкам, які потым, дзякуючы гэтаму-ж Ерманчэнку, згінуў ад кулі польскіх тэрарыстых, будучы ім, як ужо ягоны працїўнік, высланым на працу ў Лідчыну. Падчас лекцыі не абыйшлося без штандартнай тырады аб дабрадзействах нямецкай акупацыі й аб канчатковай нямецкай перамозе. У выніку пасьля лекцыі дыскусыі забраў голас між іншымі й Шусьціцкі. Шырока прадставіўшы сытуацыю ў Вялеўшчыне, зьдзекі немцаў, паленьне беларускіх вёсак, масавыя расстрэлы, паленьне жыўцом людзей ды што раз больш супраціў насельніцтва, Шусьціцкі выказаў думку, што ён ня верыць у канчатковую перамогу немцаў, як — на ягоную думку — ня верыць і сам прэлегэнт і ніхто зь беларускіх дзеячоў. Прамова Шусьціцкага зрабіла на прысутных глыбокае ўражаньне. Саковіч зьмяшаўся і дыскусыю перарваў.

Таго-ж дня Шусьціцкі быў пакліканы на прыватнае памешканьне др. Ермачэнкі. Там пры поўных чарках (у Ермачэнкі чыстага сьпірту заўсёды хапала) у прысутнасьці Ермачэнкі й Касяка ізноў завязалася дыскусыя. Шусьціцкі, ужо добра падпіты, не падазраючы дрэнных адносінаў сваіх размоўцаў да кс. Гадлеўскага, амаль даслоўна паўтарыў у найлепшай веры размову з гэтым апошнім. Матарыял для Касяка, майстры ад даносаў, быў гатовы, сьветкі на месцы, подпіс Шусьціцкага непатрэбны.

15 сьнежаня 1942 году група беларускай інтэлігенцыі сабралася ў Генэральным Школьным Інспэктарыяце, каб ушанаваць гадавіну адкрыцьця Першага Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 году ў Менску. Вокны памешканьня былі завешаныя цёмнымі шторамі. Рэфэрат чытаў кс. Гадлеўскі — асабісты ўдзельнік Кангрэсу. Зь кіраўніцтва Беларускай Народнай Самапомачы ніхто на рэфэрат не зьявіўся — гэта-ж быў-бы акт нелаяльнасьці ў дачыненьні да немцаў. Раптам гасьне сьвятло — нехта злосна выключыў электрычныя коркі. Тады кс. Гадлеўскі запальвае дзьве сьвечкі й гаворыць: «Як першыя хрысьціяне зьбіраліся пры агні сьвечак і паходнях у катакомбах, так і нам сяньня давялося запаліць сьвечкі. Верма, аднак, так як і яны верылі, што справа нашае незалежнасьці, за якую змагаўся Першы Ўсебеларускі Кангрэс, сьвятая і перамога будзе за намі!»

21 сьнежаня 1942 году Шусьціцкі, вяртаючыся зь Менску ў Жодзішкі, адведаў мяне. Ён прачуваў нешта дрэннае, калі хадзіла аб візыту ў Ермачэнкі. Яго грызла сумленьне. Яму было сорамна яшчэ раз зайсьці да кс. Гадлеўскага й прызнацца да ўсяго. Ведаючы аб маіх добрых дачыненьнях з апошнім, ён паўтарыў мне і прабег дыскусыі пасьля лекцыі ў Саковіча і прабег візыты ў Ермачэнкі.

Назіраючы, праўда здалёку, кампанію, якая ўжо доўга вялася Ермачэнкам і супалкай супраць кс. Гадлеўскага, я не спадзяваўся нічога добрага. Пастанавіў за ўсякую цану папярэдзіць кс. Гадлеўскага. Адзіны выхад — гэта асабіста паехаць у Менск. Цяжкасьці з транспартам забралі мне некалькі дзён. Калі-ж, напасьледак, 25 сьнежаня 1942 году я дабраўся ў Менск, спаткала мяне там жудасная вестка — кс. Гадлеўскі быў ужо арыштаваны гэстапам. Ермачэнка, Касяк і супалка трыумфавалі: адзін найбольшы іхны вораг быў унешкадліўлены, іншыя чакалі свае чаргі.

У тым часе, калі кс. Гадлеўскі дагараў у муках у падвале менскага гэстапа, на багата застаўленых сталох у памешканьні Ермачэнкі ракой ліўся сьпірт. Подлым мэтадам лавіліся новыя Шусьціцкія, рабіўся Касяком новы данос з доўгім сьпіскам беларускіх патрыётаў, якія, ня гледзячы на нямецкі тэрор, вялі змаганьне за лепшую долю Бацькаўшчыны, за незалежную Беларусь.

А сяньня... Вялікі Ванька — др. Іван Ермачэнка выехаў, як бедны палітычна-прасьледаваны гітлераўскім рэжымам (быў потым арыштаваны за звычайную пакражу ў кіраванай ім-жа Беларускай Народнай Самапомачы), у Задзіночаныя Штаты Амэрыкі. Апошнім часам, канчаткова скампрамітаваўшыяся, адыйшоў у бок і сядзіць ціха. Малы Ванечка... інж. Іван Касяк, таксама як бедны перасьледваны дыпісты, знайшоў так-жа прытулак у Задзіночаных Штатах Амэрыкі. Вэтэран камсамолу ў Заходняй Беларусі, парторг гэтай арганізацыі ў Вільні, агент гэстапо ў Менску, аўтар шматлікіх даносаў і пашквіляў, майстар на ўсе рукі — Іван Касяк сяньня зяўляецца парторгам і ідэялёгам беларускага зарубежніцтва.

**А. Пякарскі**

## ПАТРЭБНЫЯ КНІГІ ЯНКІ КУПАЛЫ

З нагоды сялетніх Купалавых угодкаў група сяброў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Ню Ёрку прыгатавала да друку том выбранай паэзыі Янкі Купалы.

Пры складаньні кнігі былі выкарыстаныя існуючыя ў бібліятэках Ню Ёрку перавыданьні твораў Купалы, друкаваныя некалі ў БССР. Для канчатковага ўстанаўленьня першапачаткавага арыгінальнага тэксту вершаў, неабходныя для Інстытуту **першыя выданьні** такіх Купалавых зборнікаў, як «Жалейка» з 1908 г., «Гусьляр» з 1910 г., «Шляхам Жыцьця» з 1913 г. й «Спадчына» з 1922 г.

Просім ветліва паведаміць Інстытут, хто мае гэтыя кнігі, або дзе, у якіх бібліятэках, яны знайходзяцца.

За дапамогу ў гэтай справе шчырая згары падзяка.

Ню Ёрк, 1 лістапада 1952 г.

**Беларускі Інстытут**
**Навукі й Мастацтва**

**Адрыс:**
Mrs. N. Kushel, Whiteruthenian Institute of Arts and Sciences, 435 New Jersey Ave. Brooklyn 7, N. Y., U.S.A.

---

раптам прыйшло? Як-жа мне загадала страшную загадку — ні тут астацца, ні туды пайсьці?!

НЕЗНАЕМЫ. Час, Сымоне, час! Агляніся кругом сябе і ўспомні ўсё! Дагэтуль ніколі ты сьцежкі свае ня бачыў, бо вечна нязмытыя сьлязы на вачох тваіх веселі, хоць чырвоная кроў зь цябе капала на сьляды твае. Наганяў ты сабе мазалі непазбытыя, як араў і сеяў, а груганы пражорлівыя зярняты твае сьпелыя клявалі. Як нарадзіўся ты — штось думаў, штось рабіў, тварыў, а што? Нядолю сваю толькі з году ў год гадаваў і пашыраў панаваньне яе. Песень і казак чароўных шмат тае матка над калыскай тваей напяляа; яны доўга ў душы тваей жылі і радавалі цябе, а што зь іх сягоньня асталося? Асьмялі, апляваў іх тае нязнаныя госьці, мучыцелі твае — гора ды крыўда! Агляніся, Сымоне! Успомні, разваж усё! Успомні матку, сястру сваю успомні, га! І тую вяроўку, на каторай бацька твой павесіўся! (Шыока выходзе).

### ЗЬЯВА V

ТЫЯ-Ж бязь НЕЗНАЁМАГА

СЫМОН. (Як-бы збудзіўшыся). Ах! Ён выйшаў ужо! (Хоча бегчы за Незнаемым).

МАРЫЛЯ. (Хапаючы за руку). Сымонка! Куды ты, дзеткі?

СЫМОН. Пусьцеце, мамка! Я хачу папытацца, у якім мейсцы той сход скликаецца?

МАРЫЛЯ. Ня трэба! Ня йдзі! Нашто ён табе? Я цябе прашу, дзеткі, астанься!

СЫМОН. Я толькі папытаюся і вярнуся назад.

МАРЫЛЯ. Ня ведаеш дзе, і ня трэба! Нашто табе гэны сход страшны? Я ня пушчу на яго цябе! Ня пушчу!

СЫМОН. Мамка, пусьцеце, я толькі даведаюся і больш нічога!

МАРЫЛЯ. (Віснучы Сымону на шыі). Усё роўна — ня трэба! Там згуба твая і наша. Ах, Божухна мой! Чаго яго гэтага шалёнага клікача прынесла сюды? Што яму трэба ад нас? Няшчасьце за няшчасьцем так і йдзе на бедную маю галаву! (Плача).

СЫМОН. Чаго плачаш, мамка! Яшчэ-ж нічога такога страшнага ня сталася. Ня плачце, мамка! Калі ўжо так хочаце, дык не пайду і пытацца навет.

МАРЫЛЯ. (Апускаючыся на зямлю). Дабіваеце мяне! З усіх старон дабіваюць! Жыцьцё, якое ёсьць, адбіраюць. Кара Божая звалілася на ўвесь род наш. Ах, ты долячка мая няшчасная!

СЫМОН. (Адыйшоўшыся ў старану). А ўсё такі мушу даведацца, дзе гэны сход скликаецца, каб там і няма ведама што! І трэба-ж было мне не папытацца ў яго? Ці не сказаў ён толькі часам Зосі гэтага? (Да Марылі). Мамка, дзе Зося?

МАРЫЛЯ. (Відавочна манячы). Бог яе ведае? Нейдзе выйшла. Мусіць ці не пайшла ў грыбы.

ДАНІЛКА. Я-ж табе, мама, казаў! Зоська пайшла... (глянуўшы на матку, не дагаварвае).

СЫМОН. Куды пайшла?

ДАНІЛКА. А мусіць у грыбы, як мамка казала, я ня ведаю.

СЫМОН. Маніш! Добра ведаеш, а толькі ня хочаш казаць. Кажы, а то!...

МАРЫЛЯ. Нашто яна табе? Пайшла і прыйдзе. Ці-ж першы раз.

СЫМОН. Першы, ці ня першы, а сягоньня я мушу ведаць, куды пайшла. (Прыступаючы да Данілкі). Кажы, шэльма, а не — то біць буду!

ДАНІЛКА. Я-ж табе кажу, што ня ведаю. А біць мяне ня маеш права: на тое маці ёсьць.

СЫМОН. Яшчэ ён, жаба, будзе са мной абрыдацца! Калі пытаюся, то мусіш сказаць. Я старэйшы за цябе і ніякі прыблуда, а брат твой.

ДАНІЛКА. Хоць ты і старэйшы, хоць ты і брат мой, а ўсё роўна, калі і ведаю, то не скажу! Што-ж ты са мной зробіш?

СЫМОН. Выбрашаш усё, аж міла будзе, як юху гаду спушчу!

МАРЫЛЯ. (Да Сымона). Кінь ты да яго чапіцца! Што з табой сягоньня зрабілася?

СЫМОН. Калі пытаюся, то няхай кажа! (Да Данілкі). Ну! Чуеш ці не?

ДАНІЛКА. А як-жа! Чую! Нашто-ж у мяне вушы?

СЫМОН. Ну дык кажы! А не — то, як бачыш, душу зь цябе выматаю!

ДАНІЛКА. Не скажу!

СЫМОН. Скажаш!

ДАНІЛКА. Хоць зарэж!

СЫМОН. (Хапаючы сякеру). Кажы, вужака, а то, як стой, на дробныя кусочкі іскрыпку пашчапаю!

ДАНІЛКА. (Хаваючы пад сябе йскрыпку). І іскрыпкі ня дам шчапаць, і не скажу!

СЫМОН. (Вырывае з пад Данілкі йскрыпку і хоча сеч). Скажаш?

ДАНІЛКА. (Кідаючыся к Сымону на каленьні і цалуючы рукі). А братачка, а родненькі! Пасячы ляпей мяне самога на дробныя кусочкі, а йскрыпачкі не чапай! Богам цябе прашу!

МАРЫЛЯ. (Адцягаваючы Сымона). Ці не асшалеў ты сягоньня?

СЫМОН. (Баронячыся ад Марылі). Адчапіся, мамка! (Да Данілкі, замахаваючыся тапаром над іскрыпкай). Кажы!

ДАНІЛКА. (Енчучы). Сымонка, братачка! Не сячы! Ляпей мяне забі, заражж, што хочаш зрабі са мной, а іскрыпачкі не чапай! Другой такой за ўсё жыцьцё не зраблю.

СЫМОН. (Ізноў замахаваючыся тапаром). Пасяку на дробныя шчэпкі! Кажы!

ДАНІЛКА. (Прыпадаючы галавой да іскрыпкі). Сячы па маёй шыі, а іскрыпачкі не чапай! Але ўжо скажу, скажу табе, дзе яна!...

МАРЫЛЯ. (Ухапіўшыся за сякеру). Давай мне сякеру! Давай сякеру! Я сама табе скажу, дзе Зоська. (За сцэнай шум; чуваць Зоськін голас: «Пусьцеце мяне... Я сама пайду. Пусьцеце!» Двое дворных людзей уводзяць на сцэну Зоську з завязанымі назад рукамі).

### ЗЬЯВА VI

ТЫЯ-Ж, ЗОСЬКА і ДВОРНЫЯ ЛЮДЗІ

АДЗІН З ДВОРНЫХ ЛЮДЗЕЙ. Хацела каля палацу павесіцца, дык сказалі зьвязаць і сюды прывесьці.

ЗОСЬКА. (Хочучы вывальніцца зь вяровак рукі, у страшным мучэньні). Нашто рукі зьвязалі? Мамачка, браточкі, зьмілуйцеся, развяжэце! За што так пакаралі?!

(Марыля, Сымон, Данілка застываюць у сваіх позах ні то зьдзіўленыя, ні то перапужаныя. Дзеці падбягаюць і туляцца да Зоські. Дворныя людзі выходзяць).

(Памалу апускаецца заслона)

(Далей будзе)

